# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ






ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКОМАСЬВЕТЫ БССР
МЕНСК

# АД РЭДАКЦЫІ.

Наша піонэрская арганізацыя за параўнаўча невялікі час вырасла з 400 сяброў да 23-х тысяч. Шэрагі яе ўсё больш і больш пашыраюцца, бо многа яшчэ дзяцей працоўных, дзяцей рабочых і сялян не арганізаваных. Для такой вялікай арганізацыі патрабуецца свой орган журнал-часопісь. ЦК ЛКСМБ разам з Народным Камісарыятам Асьветы БССР і наладзілі выданьне гэтай часопісі, першы нумар якой вы і трымаеце ў сваіх руках.

Якія задачы ставіць сабе рэдакцыя „Беларускага Піонэра“, а таксама, якія задачы ўскладаюцца і на піонэраў?

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“—ставіць як асноўную задачу—разьвіцьцё і ўмацаваньне піонэрскага руху на Беларусі.

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ кажа аб тым, што трэба ведаць кожнаму піонэру вёскі і гораду і што павінен рабіць піонэр. Навукова-популярныя артыкулы аб сучаснасьці памогуць піонэру прыняць актыўны ўдзел у змаганьні і будаўніцтве рабочае клясы.

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“—будзе даваць апісаньні жыцьця нашых правадыроў, каб кожны ведаў, чыімі іменамі мы называем свае зьвёны, па чыіх сьлядох мы павінны ісьці разам са сваімі старэйшымі таварышамі.

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“—будзе даваць цікавы матар'ял для чытаньня: апавяданьні, вершы, казкі і г. д. Таксама, апавяданьні, вершы і малюнкі, якія напішуць самі піонэры, будуць друкавацца ў часопісі.

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“—будзе друкаваць допісы (корэсподэнцыі, лісты) аб жыцьці атрадаў і зьвёнаў, аб жыцьці школы і наагул усіх працоўных дзяцей.

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“—будзе даваць артыкулы аб тым, як дапамагчы другім, як і што зрабіць—змайстраваць самому, напрыклад, лыжы і г. д.

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ — будзе даваць фотографіі і малюнкі з піонэрскага жыцьця, каб піонэры ня толькі чыталі, але і бачылі, як дзе ідзе праца.

ПІОНЭРЫ—павінны выпісваць і чытаць сваю часопісь. Кожны атрад, кожнае зьвяно, кожная школа падпісваюцца на часопісь у першую чаргу.

ПІОНЭРЫ—павінны прысылаць у часопісь допісы аб сваім жыцьці, аб жыцьці дзяцей, а таксама фотографіі сваіх атрадаў, груп, спортыўных выступленьняў і г. д.

ПІОНЭРЫ—будуць прысылаць у рэдакцыю свае апавяданьні, вершы, песьні, запытаньні, а рэдакцыя адкажа на іх.

ПІОНЭРЫ—напішуць у рэдакцыю аб тым, што ім падабаецца ў часопісі і што не падабаецца, а рэдакцыя адкажа на гэта. Напішуць піонэры і аб тым, што іх цікавіць у гэты час, а рэдакцыя пастараецца надрукаваць артыкул, у якім піонэры знойдуць адказ на ўсё гэта.

Толькі тады „Беларускі піонэр“ будзе сапраўды піонэрскай часопісьсю, калі кожны піонэр, кожны школьнік будзе чытаць яе, будзе выконваць усё гэта.



*Зьмена зьмену рыхтуе сабе:*
*Піонэр-комсамол—КПБ.*

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКОМАСЬВЕТЫ
БССР

РЭДАКЦЫЯ:
Менск, Пляц Волі, Наркомасьветы.

№ 1. СЬНЕЖАНЬ 1924 г.

## ПІОНЭРЫ БЕЛАРУСІ ВІТАЮЦЬ СВАИГО ПРАВАДЫРА—ЛКСМБ— З ШОСТАЮ ГАДАВІНАЮ!

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі сьвяткуе шостую гадавіну свайго існаваньня. Шэсьць гадоў упартай працы, упартага змаганьня за волю працоўных, за вызваленьне Беларусі з пад панскага бізуна, за адбудаваньне БССР—шэсьць гадоў мінула. Шэрагі ЛКСМБ пашырыліся аж да 20.000 сяброў. Сотні сяброў уліліся ў слаўныя шэрагі комуністычнае партыі.

23.000 піонэраў Беларусі шлюць сваё прывітаньне ЛКСМБ у гэты надзвычайны дзень.

Паступова ўзмацняючы сувязь сваіх атрадаў з комсамолам мы пойдзем плячо ў плячо разам з ім да сусьветнае пролетарскае рэволюцыі па шляху, які паказаў нам наш правадыр Ул. І. Ленін.

Хай жыве Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі!

Хай жыве Комуністычная Партыя Беларусі!

Да змаганьня за справу працоўных—піонэры заўжды гатовы!










# ШЭСЬЦЬ СЛАЎНЫХ ГАДОЎ.

15 сьнежня 1918 году ў Менску адбыўся сход моладзі, якая аднагалосна парашыла стварыць комсамол. На сходзе было ўсяго чалавек 50, якія выбралі са свайго складу першы комітэт Менскай організацыі.

Гэтым маленькім сходам і быў заложаны наш цяперашні вялікі Ленінскі Комсамол Беларусі. Мы заўсёды сьвяткуем гэты дзень, бо звычайна лічым, што з гэтага дню пачалася наша організацыя. Але яшчэ і раней да 1918 г. моладзь організоўвалася. Мы ведаем, напрыклад, у 1903—1906 гадох гэткія організацыі моладзі, як „Малы Бунд", „Маладая Іскра", якія яшчэ ў тыя часы вялі змаганьне з царызмам за лепшае жыцьцё моладзі, дапамагаючы ў барацьбе сваім старэйшым таварышом. Мы ведаем організацыю моладзі пад назваю „Маладая Беларусь", якою кіраваў вядомы наш таварыш Ігнатоўскі *). Пробавала організоўвацца і сялянская моладзь. Але царскія жандары не давалі расьці гэтым маладзенькім організацыям і хутка іх зьнішчалі, арыштоўваючы іх сяброў.

Значыцца, наша організацыя ня проста „з неба звалілася", а мае сваіх папярэднікаў.

Разам з організацыяй комсамолу ў Менску пачалі будавацца комсамольскія організацыі і па другіх гарадох. У Віцебску, нават, організацыя ўжо была месяцам раней за Менск. Памаленьку за рабочымі пачыналі організоўвацца комсамольскія ячэйкі на вёсцы з моладзі сялянскай.

Што-ж рабіла тады наша маладая Беларуская комсомольская організацыя?

Тады ішла ўпартая барацьба рабочых з панамі. Нашыя організацыі прыймалі ў ёй чынны ўдзел. Яны тлумачылі моладзі за кім ёй ісьці—ці за рабочымі і за партыяй рабочых—комуністычнай партыяй, ці за партыямі панскімі, буржуазнымі. І моладзь рабочая і лепшая сялянская ішла ў комсамол, змагалася на фронце разам з старымі рабочымі і сялянамі, разам з комуністымі. Нават дзяўчаты ў той час змагаліся са зброяй у руках. Напрыклад, у кулямётным комсамольскім атрадзе ў Вільні былі дзяўчаты.

Але паны захапілі Беларусь. Засьвістаў панскі бізун па гарадох і вёсках ужо стаўшай вольнай краіны.

Комсамольцы разам з комуністымі хаваюцца ў падпольле, комуністычная партыя вядзе барацьбу з панамі, а комсамольцы ім у гэтай барацьбе дапамагаюць: разносяць лістоўкі, проклямацыі. Мала таго—у падпольлі, каб ня бачылі жандары, організоўваюць гурткі, у якіх вучаць політычныя навукі, чытаюць кніжку, выпусьцілі нават газэту «Факел Комунізму».

Узьнялася і сялянская моладзь. Лясы былі поўны паўстанцамі, якімі кіравалі комсамольцы. Паўстанцкая моладзь узрывала масты, каб ня даць магчымасьці перавозіць панскае войска, пускала цягнікі пад адкос, нападала на цэлыя вайсковыя атрады. Шмат комсамольцаў папала тады ў лапы жандараў, якія прымушалі іх выказаць імёны сваіх таварышоў. Але і пад пыткамі з сьціснутых вуснаў нельга было вырваць ніводнага слова.

У падпольлі нашы організацыі добра загартаваліся, выхавалі з сябе сапраўдных барацьбітоў-змагароў.

Кончылася панаваньне жандараў, зноў стала Беларусь вольнаю і наш комсамол пачаў новую працу. Трэба было адрадзіць зруйнованую гаспадарку. «Суботнікі» заўсёды былі поўны комсамольцаў.

Пачынаецца вучоба комсамольцаў, адчыняюцца розныя школы, якія гадуюць добра вучаных рабочых. Пачынаецца організаваньне батрацкай моладзі, абарона іх інтарэсаў перад іхнімі гаспадарамі.

Комсамол урэшце пачынае організоўваць і юных піонэраў, сваю слаўную зьмену.

На працягу шасьцёх гадоў з невялічкіх групак комсамол Беларусі вырас у 20-ці тысячную організацыю, за якою йдзе ўся рабоча-сялянская моладзь, організацыю, аб якой ведаюць па ўсіх глухіх куточках Савецкае Беларусі. Гэтыя шэсьць год былі вельмі цяжкімі гадамі, але-ж яны і зрабілі наш саюз магутным, вялікім і заўсёды гатовым да змаганьня за лепшую будучыну працоўных.

Піонэры, малодшыя браты комсамольцаў, зьмена комсамольская мусіць ведаць гэтую барацьбу—змаганьне комсамолу, мусіць на ёй вучыцца, каб у свой час быць такімі, як і комсамольцы.

*А. Самахвалаў.*



*) *Ад рэдакцыі:* Пра таварыша Ігнатоўскага напішам у чарговым нумары.




# ПІОНЭРСКІ РУХ НА БЕЛАРУСІ.

Комсамол у дзень свайго юбілею VI гадавіны існаваньня робіць агляд сваіх сіл, дасягненьняў і намячае далейшы плян працы. Комсамол сягоньня ў гэты дзень падлічыць таксама дасягненьні ў працы сярод дзяцей, свае зьмены—піонэраў.

Праца комсамолу ў піонэрскім руху дала вялікія вынікі. Зусім нязначны тэрмін, як комсамол пачаў арганізоўваць сабе зьмену. Але ня справа ў тэрміне. За гэты час піонэрскі рух у нас на Беларусі вылІўся ў пэўныя формы. Мы цяпер маем моцную арганізацыю юных піонэраў, якая налічвае ў сваіх шэрагах 23 тысячы юных Ленінцаў.

Шлях, які прайшла наша організацыя з часу свайго заснаваньня, досыць цяжкі. У першыя дні свайго нараджэньня мы ня мелі добрых працаўнікоў у галіне піонэрскага руху, бракавала матар'яльных сродкаў.

У сучасны момант дзіцячы комуністычны рух на Беларусі ўвайшоў ужо ў пэўныя формы.

Працоўныя колы грамадзянства ўбачылі вялікую карысьць ад піонэрскага комуністычнага выхаваньня. Організацыя наша такім чынам стала жыцьцёвай і патрэбнай. Яна выкоўвае грамадзян свайго часу, якія будуюць новае колектыўнае жыцьцё.

Піонэрскі рух зараз становіцца асяродкам комуністычнага выхаваньня.

Грамадзянская праца, якую вядуць піонэры, мае вялікае значэньне. Піонэр набірае політычныя і грамадзянскія веды ў сваім атрадзе. Адсюль ён распаўсюджвае гэтыя веды ў школе, дома і наагул дзе-б ня быў. У школе і дзіцячых установах піонэры становяцца на чале грамадзянскага жыцьця дзяцей.

Але трэба сказаць, што ўсю гэтую працу выконвалі ў большасьці гарадзкія організацыі дзяцей. Вёска наша яшчэ ня стала на належную вышыню ў гэтых адносінах. Многа розных перашкод яшчэ стаіць на шляху піонэрскага руху ў вёсцы. Патрэбны добрыя працаўнікі, якія ведаюць вёску, ведаюць мову дзяцей і г. д., патрэбна выдаць шмат належнай літаратуры. Усё гэта трэба прыстасаваць к умовам працы ў вёсцы.

Наша заданьне—прасунуцца шырэй у вясковую дзетвару, абхапіць піонэрскімі організацыямі. Гэта-ж і заданьне комсамолу. Запатрабаваньне сваёй піонэрскай організацыі ў вёсцы вялікае. Цяга дзяцей вёскі да нашай організацыі расьце з кожным днём. Там, дзе ёсьць у вёсцы піонэрскі атрад, адчуваецца куток новага жыцьця. Погляд на „чырвоныя гальштукі“ сялянства ўжо зусім перамяніла. Усе гэтыя магчымасьці, якія ёсьць у вёсцы для організацыі піонэрскіх атрадаў, трэба скарыстаць комсамолу і піонэрам. Але падход да справы павінен быць самы асьцярожны. Трэба скласьці падхадзячыя ўмовы, мець добрых працаўнікоў і тады засноўваць атрад.

Да вясны нам неабходна мець хаця-б па 2-3 атрады ў кожным раёне. Працу сярод вясковых дзяцей мы павінны паставіць так, каб яна выходзіла з іх запатрабаваньняў.

Комсамол павінен гэта помніць на сёмым годзе сваёй працы сярод дзяцей. Комсамол павінен добра вывучыць тэорыю, практыку і мэты піонэрскага руху. Піонэры ў сваю чаргу павінны яшчэ шчыльней зьвязацца з комсамолам у сваёй працы.

З другога боку піонэры павінны дапамагаць у будаўніцтве школы, рабіць свой уплыў на школу. У гэтым баку вялікую працу трэба правесьці форпостам. Форпост павінен мець шчыльную сувязь з усімі дзяцьмі й настаўнікамі. Настаўнікі многа могуць памагчы ў працы піонэраў у школе.

Піонэры павінны помніць яшчэ аб адным: праца сярод бяспрытульных дзяцей.

Апрача ўсяго гэтага наша організацыя павінна помніць яшчэ і аб сваіх Заходніх сяброх. Трэба зьвязацца з імі, аказваць ім усялякую дапамогу ў іх барацьбе.

Няхай расьце і мацнее сувязь піонэра і комсамолу! Няхай будзе неразрыўным трайны вузел—партыя, комсамол, піонэры. Няхай расьце і мацнее наша піонэрская організацыя ў вёсцы. Комсамол можа ганарыцца сваёй новай зьменаю.

Юны піонэр! Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў.

*Меерзон.*



# Гэта было,— гэтага ня будзе НІКОЛІ.

**(Маленькі ўспамін).**

6-я гадавіна комсамолу—для нашых маладзейшых братоў піонэраў будзе такім-жа сьвятам, як і для комсамольцаў. Бадзёрую комсамольскую моладзь узбудзіла наша Кастрычнікавая рэволюцыя. Па сьлядох гэтай моладзі йдуць і піонэры.

Шэсьць гадоў хутка праляцела ў той працы над узмацаваньнем заваёваў Кастрычніка, якую вялі нашы браты й бацькі.

Нам, дзяцям, цяпер жывецца прывольна. Мы маем магчымасьць організоўвацца ў свае піонэрскія атрады, дзе вучымся, гуляем і наагул свабодна падгатаўляем сябе да жыцьця.

Але ня гэтак жылі юнакі ўперад пры царскай уладзе.

Вось толькі адзін момант з такога жыцьця, якое ўжо навекі пахавана Кастрычнікаваю рэволюцыяй, і толькі, як успаміны, усплывае ў думках.

* * *

На заводзе, дзе апрацоўвалі дрэва і інш., нас малышоў было шмат. Працавалі мы аж па 12 гадзін у суткі, роўна, як працавалі старыя. А чаму павінны былі йсьці працаваць? А вельмі проста: есьці хацелася. Бацькі нашы не маглі вырабіць на сябе й на дзяцей. І як толькі дзіцё чуць падрасло, бацька стараўся выправіць яго на працу, каб зарабіць лішні грош і гэтым самым падтрымаць сваё нікчэмае існаваньне. Трэба было карміць яшчэ меншых дзяцей.

Працаваць на заводзе 12 годняму малышу было вельмі цяжка. Асабліва, калі працавалі ўначы. Дадому прыдзеш зморaным, разьбітым і вялым. Усю сілу забірае сабе станок. А дома таксама не палёгка. Звычайна застанеш п'янага бацьку ў хаце (што было рабіць з гора!?), дык, каб не папала, заб'ешся дзе небудзь у куток і дрыжыш галодны й халодны. А прышла ноч—ідзеш на працу, каб падмяніць тых, якія працавалі ўдзень.

Але гэтага мала. Ужо праца—такой бяды, але тыя зьдзекі, якія над намі ўчынялі, вось што было горш усяго.

Чуць што прыкмецілі за табою ў працы і, айда з заводу куды вочы глядзяць...

І вось усе гэтыя, якіх выкідалі з заводу, ішлі жульнічаць, красьці і г. д. Інакшага выйсьця ня было.

Аднаго разу—добра помніцца мне гэты факт—прыляцеў да нас загадчык. Мы, малышы, працавалі разам ля сваіх варстакоў. Зьвярыны крык загадчыка спудзіў нас, як мышэй.

Доўга не чакаючы пачаў лупіць ён нас па мордзе. А за што? За дарэмна. Справа была такая: адзін хлапчук ішоў каля прыводнага рэмяню і, як раз у гэты час, рэмень лопнуў. Вось гэтую віну і ўзлажыў загадчык на хлапчука.

Зьбіў яго больш за ўсіх і выгнаў на двор з заводу...

Такія выпадкі былі частыя. Кожын з нас чакаў такой хвіліны, што вось, вось і, паляціць вон. Паляціць зусім дарэмна. А дзе дзенешся? Вучыцца? Вучыцца нас ня пускалі. Буржуі не хацелі рабіць нас сьвядомымі, бо гэта на іх галаву вяроўка.

Зусім ня тое цяпер пры савецкай уладзе. Цяпер у нас праца падросткаў ахоўваецца вядомымі законамі і правіламі.

Калі-ж гэтыя законы не выпаўняюцца, то ёсьць каму і пажаліцца.

Школы цяпер нашы. Уся працоўная моладзь мае права вучыцца дзе хоча й на што хоча.

*Гарадзкі.*





# БАЦЬКАЎ СЫН.

(Апавяданьне).



вечары, як Сьцёпка упарадкаваў скаціну і, зморады дзённай працай, уваліўся ў сваю мізэрную хатку, матка сказала яму:

— Хоць-бы ты, сынок, да таткі даведаўся, занёс яму што-колечы. Мо' галадуе тамака ў лесе?

Гаварыла старая ціхім, прытоеным голасам, быццам баялася, каб хто не падслухаў. Сьцёпка так сама ёй адказаў:

— Мамка! Змарыўся я, ног пад сабой ня чую.

А ў думках мігнула:

— Лес, нетры... могільнік па дарозе... Страшна...

Здрыгануўся міжвольна. А матка больш не настайвала. Уздыхнула цяжка, глыбока.

— Як сабе хочаш, сынок...

Колькі ціхай пакоры ў сумным матчыным голасе, колькі журбы нявыводнай!.. Ах, нашто яна так, лепей-бы сварылася, дык упяўся-б не пайшоў на наругу. А так—няма сілы, каб не пайсьці. Хоць і страшна, хоць і жудасьць хапае пры думцы аднэй...

І Сьцёпка пайшоў. Адразу нават не пачакаўшы вячэры, бо знаў, што, калі замарудзіць,—больш страху, жудасьці набярэцца.

Сьцёпка добра помніць тое месца. Там, дзе лес пераходзіць у багну, дзе пачынае пад нагамі сьлюнява цьмякаць набраклы вільгацьцю дол, там трэба шукаць маленькай вузенечкай сьцежкі. Потым па ёй сярод куп'я, карчоў—валасатых страшыдлаў, паміж чорных лужын бяздонных, пакуль не адкрыецца ўзгорак, быццам нейкая выспа сярод багны-балота. Па ўзгорку направа, ў бок, да густога калматага хмызьніку. Там спыніцца, ціханька сьвіснуць...

Сьцёпку самае галоўнае—да лесу дабрацца. Там ня так страшна, бо лес свой, лес ня выдасьць. У лесе кожнае дрэва знаёмае, кожная сьцежачка. А вось пакуль да лесу... Вакол вёскі жандары польскія нікаюць, падсьцерагуць часам—крышка тады і бацьку і яму.

А страшней за ўсё—могілкі. Чаму так баіцца іх Сьцёпка? Чаму такі жах наганяюць яны сваймі старымі пакарожанымі бярэзінамі, сваймі крыжамі паніклымі? Ня верыць Сьцёпка ні ў чарцей ні ў нябошчыкаў, ведае—глупства гэта адно, ня ўстануць мерцьвякі з могілак, не задушаць яго. А вось страшна чагосьці.

Бяжыць Сьцёпка краем дарогі, прыгінаецца нізенька, вострымі вочкамі бяздонную цемру сьвідруе. Ззаду, здаецца, нехта паўзе, насьцігае. Вось хапае ўжо за полы доўгай сарочкі... Уцякаць?..

Не, гэта так, толькі здаецца. А пабегчы —тады прапаў, тады ўжо не адкараскаешся ад страху.

Наперадзе загараджвае дарогу цёмная пляма. Распаўзлася абапал дарогі, берагі свае ў цемры разбавіла, зьлілася з цемрай. Гэта—могілкі...

У Сьцёпкі ня сэрца ў грудзёх, а жалезны клявец—гэтак стукае, б'ецца. Але йдзе, ня спыняецца.

Чорная пляма разгарнулася ўшыркі, увабрала яго ў сваё нутро. З бакоў заплавалі няясныя цыбатыя цені крыжоў. Здаецца, пасуваюцца, набліжаюцца да дарогі.

А гэта што?.. Быццам нейкія крокі?.. Не, гэта-ж сэрца так б'ецца. Глупства. Зараз канец, там поле, а далей і лес ужо.

Раптам паблізу хруснула нешта. Ірвануўся Сьцёпка, у нагах нэрвовыя дрыжыкі... Але стрымаўся, заспакоіў сябе:

— Глупства. Мо' птушка?

Наўмысьля ход замарудзіў. Пашоў, гледзячы проста перад сабой у кропку адну. Вось і канец. Лёгка ўздыхнуў, шпарчэй пасігаў па дарозе.

Лес раптам насунуўся вялізнай хмурай грамадай. Як уваходзіў Сьцёпка ў яго, пачуў сябе маленькім-маленькім, быццам казюлька якая. Але пасьмялеў, бо хіба-ж можа што стацца гэткаму маленькаму хлопчыку пад аховай магутнага лесу—дзядулькі!

Ішоў па лясу вобмацкам. Натыкаўся на дрэвы і, мінаючы, абымаў іх з нейкай шчырай ласкай дзіцячай.

Патаёмную сьцежку ўраз адшукаў, бо ня зьлічыць нават, колькі разоў вымерыў ён сваймі маленькімі крокамі гэтую дзікую мясьціну. Па сьцежцы паціху пашоў, мацаў нагой, каб ня зьбіцца, бо троху ў бок—і капут, загрузьнеш у багне. Доўга прышлося цягнуцца. Змора валіла з ног, да зямлі прыціскала. Але йшоў, ня спыняўся.

Урэшце сьцежка вільнула раптам у бок і Сьцёпка пачуў пад нагой цьвёрды, бясьпечны грунт. Тут—направа цяпер.

Пайшоў вольна, размашыста, нават галаву задраў угару. Цяпер ён не баіцца. Ані крушыначкі! Чаго-ж яму баяцца, калі тут—колькі крокаў—і свае людзі: бацька, хлопцы вясковыя... А як бацька ўзрадуецца!

Вось і хмызьнік. Сьцёпка спыніўся. Пераравёў дух, каб ямчэй было сьвіснуць, бо гэта-ж самае цікавае. Вось толькі як: ці ў прыгоршчы ці ў два пальцы. Лепш у прыгоршчы, мусіць, бо яно ў яго надта спрытна выходзіць, як раз, як сава.

Сьцёпка склаў рукі, прыладзіўся.

— Фіу...

Усьміхнуўся здаволена. І сапраўды—якраз, як сава... Зараз адкажуць. Тады можна пайсьці.

Але нешта ня чутна. Што-ж гэта, няўжо не пачулі? Трэба другі раз...

Ізноў ня чуваць. Пачакаў часінку, яшчэ раз сьвіснуў.

Ізноў ня чутна адказаў. Няўжо ўсе паснулі? Ня можа быць, варта павінна стаяць

І раптам страх ахапіў Сьцёпку. Зноў пачуў сябе адзінотным. Няўжо нікога няма? Няўжо пайшлі куды ў іншае месца? Што-ж цяпер? Назад?..

Уявіў сабе Сьцёпка дарогу: балота, могілкі...

— Не, не пайду. Трэ' паглядзець, мо' й сапраўды паснулі.

Сьцёпка палез у кусты. Асьцярожна рассуваў мяккае вецьце, часам спыняўся, прыслухваўся.

Ціха. Ані зыку, ані шолаху.

І чым далей, тым больш ахапляў Сьцёпку жудасны страх. Шчыльней туліўся ён да зямлі, віўся па ёй, як вужака.

Раптам скрозь вецьце агоньчык блісьнуў. Сьмялей папоўз Сьцёпка. Зноў агарнула радасьць, здаволенасьць. Праз колькі крокаў палянку ўбачыў наперадзе. Па ёй сьвет бегае цьмянымі дрыжыкамі, варушыць, карабаціць сонную траву. Гэта—ад вогнішча, што недалужна згасае сярод палянкі. І—што гэта?—вакол нікагутка. Пуста...

Сьцёпка паціху высунуўся на палянку, пільна прыслухаўся. І раптам—быццам ударыла яго што, ашаламіла. Лёг на зямлю, прытаіўся, поўны вострага палкага жаху.

Ці не здалося гэта яму? Не, во яшчэ... яшчэ... Хрыпіць нехта. Ды так-жа страшна, жудасна...

Задрыжэў Сьцёпка ўвесь. Ляжаў нярухліва, ня знаў, што рабіць. А там усё хрыпіць, усё хрыпіць...

Урэшце Сьцёпка набраўся адвагі, узьняўся паціху, пачаў уважна разглядаць палянку.

— Вунь ён!..

На ўскраю паляны цьмяны выблеск згасаючага вогнішча вызначыў цёмную фігуру. Нехта ляжыць, стогне. І больш мусіць нікога няма, адзін ён.

Сьцёпка троху счакаў і потым гукнуў палахліва:

— Дзядзечка!

І сам зьдзівіўся свайму голасу: такі слабы, ледзь чутны. Другі раз паклікаў:

— Дзядзька!

У адказ зноў пачуўся цяжкі жудасны хрып. Тады ён бліжэй падышоў, пачаў разглядаць. У твар зазірнуў. І раптам кінуўся з дзікім прарэзьлівым крыкам:

— Татачка!..

Бацька пазнаў сына. Напружыўся і загаварыў скрозь сударгавую хрыпоту:

— Сьцёпка... сыночак... гэта ты... забілі мяне... знайшлі... выказаў нехта... Уцяклі каторыя... у Седлішча... так згаворана было... Ой, цяжка, баліць...

Зноў захрыпеў, застагнаў. На вуснах зласесным булькатам чорная кроў.

Сьцёпка плакаў горка, адчайна. У роспачы туліўся галавёнкай да бацькавых грудзей.

Бацька раптам заварушыўся.

— Хто гэта? За што? За што яго татку згубілі?

Успомніў польскіх жандараў, якія ўвесь час бацьку шукалі, якія ня раз яго самога пыталі і білі. І дзіцячыя кулачкі моцна сьціснуліся ад прыліву вострага гневу.

— Гэта яны... яны забілі татку...

І разам у дзіцячай галаве стальлю прарэзалася пастанова:



...Нехта ляжыць, стогне.
І больш мусіць нікога няма,
адзін ён...

— Ой... цяжка... гарыць, ой... ой...

Апошні ўздых і выпрастаўся, змоўк. Сьцёпка перш не зразумеў, потым усё стала ясна.

— Памер!.. Няма таткі!..

І дзіцячая крыўда агарнула болем пякучым. Сьлёзы яшчэ мацней паліліся, зьмяшаліся з бацькавай крывёй.

З гадзіну сядзеў так ля бацькі, плакаў усё. Потым устаў, азірнуўся.

Вогнішча згасла ўжо. Цемра ўсё заліла, затапіла.

У Сьцёпкі ў галаве біліся думкі. Новыя, напружныя.

— Не пайду ў вёску, ня хочу... У Седлішча, казаў, уцяклі... Пайду шукаць...

Адважна разгарнуў кусты і пасігаў у той бок, дзе, як ён знаў, было Седлішча...

. . . . . . . .

Матка чакала Сьцёпку. Усе вочы праглядзела, вушы праслухала. Горам ахінулася матчына сэрца.

Няма сынка, ня чуваць.

Няма і ня будзе. Доўга ня прыдзе, дарма што так пільна яго матка чакае.

Ня прыдзе затым, што ён бацькаў сын і будзе рабіць бацькаву справу...

*М. Зарэцкі.*

## ПІОНЭР.

Вясёлы,
—бадзёры,
Жывы, як агонь.
Ён—дзіцё сонечных дзён.

З духам імпэтным,
З вачыма, як жар,
Ён сягоняшняга гаспадар.

Імкнецца, нясецца
Стралою ў даль.
З песьняй вясёлай—
Мінула жуда.

*Я. Бобрык.*

# БУДЗЬ ГАТОЎ!



Ой ня лес, ня дубняк маладзенькі
Пачынае вяршынай хістаць—
Гэта дзеці—прышоў сьветлы дзень іх—
Гэта йдзе піонэрская раць.
Дружна, сьмела ў нагу крок за крокам
На спатканьне да новых гадоў.
Піонэр сваім веран зарокам,
Піонэр на змаганьне гатоў!

* * *

Ой, не макавых лісьцяў там чырвань!
Ня чырвоныя кветкі растуць—
Гэта з сьцягам, з ласкаю шчырай
Комсамольцы на сустрач ідуць!
Песьня поўніць прастор гучным сьпевам,
У ёй чуецца моц юнакоў...
Піонэр—гэтай раці ты зьмена!
Піонэр—будзь заўсёды гатоў!

*Язэп Падабед.*

## Заходняя Беларусь.

* * *

Дзякуючы ўзмоцненаму шпіёнству польскае ўлады за намі комсамольцамі, мы не маглі ніяк зьвязацца з ЦК КПЗБ. Сочаць за намі на кожным кроку. А працаваць трэба. Трэба як небудзь організоўвацца і весьці працу. Душа баліць, нельга ніякім чынам глядзець пасыўна на тое жыцьцё, якое нас абкружвае ва ўмовах польскаго прыгнечаньня.

Мы парашылі організоўвацца ў сваім раёне. Ініцыятараў для гэтае справы сабралася нас 3 чалавекі. Назначылі дзень сходу, месца і пачалі апавяшчаць сваіх сяброў з усяго раёну. Украдкам упачы хадзілі мы адзін да другога.

У аўторак (вызначаны час) у 10 г. вечару мы сабраліся. Туляючыся пад прыкрыцьцем цёмнае ночы дайшлі мы да азначанага месца ў гумно аднаго селяніна. Нас было 7 чалавек. Залезьлі мы на торп жыта. Але ўсё-ж страшна... Кожны вечар бываюць налёты палякоў і што чуць...

Каб скласьці небясьпечнасьць мы прабралі ў торпе вялізную дзірку. Залезлі ў яе, накрыліся зьверху саломаю і ўсё было гатова. Нават ліхтарню запалілі, бо сьвету з нашае нары было ня відаць.

Пытаньняў для абгаворваньня ў нас было вельмі многа. Нам трэба было зьвязацца з ЦК, а для гэтага знайсьці шлях і абдумаць, як гэта зрабіць, каб нас ня выкрыла польская ўлада. Другое: трэба зьвязацца з іншымі раёнамі, якія ужо маюць сувязь з ЦК. Далей нам трэба падумаць над самаабаронай і над тэй літаратурай, якая ў нас мелася.

Над гэтымі пытаньнямі сядзелі мы ўсю ноч. Напасьледак прышлі к вырашэньню. Плян працы быў пабудованы добра, толькі троху дрэнна з самаабаронай. Мы мысьлілі сабе, што лепш усяго адбіраць сваіх арыштаваных сяброў у лесе, калі іх будуць весьці ў павятовую турму. Але гэтага зрабіць нельга. Арыштоўваюць заўсёды ўночы. І пакуль мы агледзімся, пакуль зьбяромся, сябар наш будзе ў турме.

Вырашылі лепш усяго асьцерагацца.

Літаратуру мы разабралі на рукі кожны сябар, які й павінен яе разьнесьці па вёсках, але асьцярожна...

З ЦК можна было зьвязацца пры дапамозе некаторых сяброў з другіх раёнаў.

Так мы правялі свой першы комсамольскі сход.

* * *

Другі сход наш адбыўся пад старым вятраком. Вятрак стаяў на палёх і быў абабіты ўнізе дошкамі. Сабраліся, праўда, ня ўсе мы. 3 сяброў нашых ня было. Пайшлі яны яшчэ завідна на вечарынку, куды прышло 10 паліцыянтаў і 5 шпікаў. Там і засталіся, бо нельга было кроку ступіць, каб ня бачыў цябе шпік.

Да гэтага часу мы яшчэ ня былі зьвязаны з ЦК і працы разьвярнуць шырока не маглі.

Толькі праз два месяцы ўдалося заглянуць да нас т. №, які меў сувязь з ЦК і ўсімі організацыямі. Пры дапамозе яго нам удалося зьвязацца з ЦК. Праца з гэтага часу пашла лепш.

---

**Пры такіх умовах працуюць нашы комсамольцы ў Заходняй Беларусі! А мы піонэры, як мы працуем, праводзім сходы? Над намі не стаяць шпікі. Мы—сыны Вольнай Савецкай Беларусі!**




## Усе дзеці павінны быць піонэрамі.

Як ня было ў нас у Пасталах атраду піонэраў, расла я, як дзікая. Нічога ня ведала я аб жыцьці нашай Рэспублікі і наагул аб жыцьці ўсяго сьвету. Ведала толькі, што трэба пад'есьці, выспацца і бегаць з дзяўчатамі па вуліцы.

Цяпер я ўжо адчуваю сябе другой. Я ўсяго тры месяцы ў атрадзе. Але многа чаго пачула ў ім і ўведала.

Нядаўна мяне абралі корэсподэнтам сваёй піонэрскай часопісі. Я вельмі зацікавілася гэтаю працаю і пачынаю яе выконваць.

Мая прапанова, каб усе сялянскія і гарадзкія дзеці йшлі ў сваю піонэрскую організацыю. Толькі ў гэтай організацыі мы зможам вырасьці карыснымі грамадзянамі для Савецкай Беларусі.

**Надзя Валковіч.**

---

**Песьні ўсе старыя змоўклі,**
**бо усё старое зьмеркла.**
**Ўсе дзяўчаты—комсамолкі,**
**ўсе дзяўчаты—піонэркі.**

---

## Стаў піонэрам—жыцьцё пашло пановаму.

**(Апавяданьне піонэра 17 атраду).**

Пятрусь жыве ў вёсцы. Яму толькі што пашоў дзесяты год і бацька парашыў пусьціць яго ўжо ў навуку. Страшэнна надаядаў Пятрусь дома. Лета, дык яшчэ сяк-так. А прыдзе зіма—лапцей не набрацца. Цэлую зіму на лёдзе, на коўзанках. А колькі бяды з ім бывае. Кожны дзень скардзяцца суседзі. Таго хлапца набіў, таго сабаку ў палонку ўтапіў, таму яшчэ падстроіў якую небудзь штуку.

Бацька Пятруся працуе кавалём у вёсцы. Ніяк ён ня можа даглядаць за Пятрусём. Мацеры таксама працы па вушы. А Пятрусю—хоць бы што. Ён і вухам не вядзе. Назьбірае сабе хэўру і, айда буяніць.

— Не, далей гуляць я табе не дазволю —сказаў неяк бацька Пятрусю.

— Чаму? А што-ж рабіць?

— Пойдзеш у школку.

Пятрусь апусьціў галаву і задумаўся. Відаць, шкода было прамяняць сваё вольнае жыцьцё на рэчцы на школку.

Ну што-ж, пайду.

* * *

З школаю Пятрусь зжыўся хутка. Забыўся цяпер ён аб усялякіх коўзанках і сабаках. Страшна зацікавіўся Пятрусь навукаю. Асабліва спадабалася яму свая вясковая мова, на якой напісаны кніжкі. Усе вершы, якія пападаліся Пятрусю пад рукі, ён завучваў напамяць і любіў дэклямаваць іх дома бацьку, або на вечарынках моладзі.

Аднаго разу ўвясну, калі ўсе школьнікі гулялі на вуліцы, паказалася ў канцы вёскі куча дзяцей. Дзеці йшлі пад сьцягам і з чырвонымі гальштукамі. Дзеці былі зусім новымі і невядомымі для школьнікаў.

Куча дзяцей-незнаёмцаў застанавілася ля школы. Дзеці ўсё жывыя, бадзёрыя, чырвонашчокія.

— Хто вы?—запытаўся іх Пятрусь.

— Мы—піонэры, адказаў павадыр.

— А, гэта тыя, што нам настаўнік аднаго разу тлумачыў?—зьдзіўлёна выказаў Пятрусь.

Піонэры хутка зрабілі тут-жа на вуліцы свой сход. Растлумачыў павадыр ўсім дзецям аб піонэрах.

Пасьля пачалася запісь дзяцей у атрад, які піонэры прышлі з'організаваць пры гэтай школе.

Пятрусь запісаўся першым. Павадыр атраду пагутарыў троху з настаўнікам і ўвесь атрад пайшоў назад.

З гэтага часу Пятрусь стаў піонэрам. Жыва ўхапіўся ён за працу ў сваім атрадзе. Уважліва слухаў павадыра, якога вылучыла бліжэйшая вясковая ячэйка (у вёсцы іх ячэйкі ня было), акуратна адносіўся к усякім абавязкам.

У атрадзе Пятрусь даведаўся многа чаго, што ён да гэтага часу ня ведаў.

---

**Калі хочаш быць карысным**
**ты на нашай старане,—**
**пачынай чытаць часопісь**
**„Беларускі піонэр“.**

---

Свае веды Пятрусь стараўся пераказваць дома.

— Што ты шалёны, ці ліха цябе ведае?!—крычала матка.

— Гэта-ж, думаць—бога няма, абразоў ня трэба, папа ня трэба.

Але справа йшла сваім парадкам.

Увосень захварэла Пятрусёва сястра. Сталі лячыць яе шаптухі. Але... ня вылечылі.

Прышлося хаваць. Пятрусь настойваў без папа. Але матка не згадзілася.

З Пятрусём згаджаўся і старэйшы брат, які ўжо быў у камсамоле.

— 10 руб. дасі, прыду—сказаў поп.

Матка падумала, падумала ды й згадзілася з Пятрусём.

— Згарыць ён з папом, апошнюю карову трэба прадаць,—сказаў бацька.

З гэтага часу Пятруся сталі слухацца бацькі. Ужо не цягалі за вушы, як уперад.

Прайшоў год і жыцьцё дома ў Пятрусёвай хаце перамянілася. Абразы бацька павыкідаў сам з хаты. Стаў хадзіць бацька на сходы ячэйкі ў мястэчка і па ўсёй вёсцы пашлі чуткі, што стаў комуністам. Матка, праўда, доўга трымалася але згадзілася і яна з праўдаю.

**П. Ш.**

## Як мы вучымся.

Ужо тры месяцы прайшло, як залажыўся ў нас піонэрскі атрад. За гэты кароткі тэрмін мы пасьпелі ўжо многа чаго зрабіць. Мы вучымся. Вучэньне ў нас стаіць на першым пляне ў нашай працы. Мы ўжо добра ведаем, хто такі быў Ленін і як ён глядзеў на маладую чырвоную зьмену. Таксама нас пазнаёмілі з жыцьцём піонэраў у другіх старонках, як Нямеччыне і інш.

Чытка газэт у нас адбываецца па большай частцы колектыўная. Цікавімся болей усяго сваёй газэтай „Малады Араты“. Цяпер думаем хутка выпусьціць сваю насьценную газэту.

Апрача працы ўнутраной у атрадзе, мы стараемся працаваць і па-за атрадам. Так мы правялі некалькі гутарак з сялянскімі дзяцьмі; зрабілі збор грошай для бязпрытульных дзяцей.

Мы спадзяёмся, што хутка і ўсе сялянскія дзеці будуць у шэрагах піонэраў.

(*м. Посталы*) **Ф. Сафонаў.**

---

**„Піонэр“ мяне навострыць:**
**запішуся у атрад**
**Комсамолкі—мае сёстры,**
**комсамолец—родны брат.**

---

* * *

Колькі чырвані і сьвету
Бачыў я сягоньня
Так ляпеча хлопчык—вучань
Уначы, з прасоньня.

І матулі ён тлумача
Сёньня што за сьвята,
Што рабочым, селянінам
Улада ўся узята.

У паноў як была улада
Як жылося люду
Зьдзекі строілі якія,
Як раўнялі хлуду.

А далей, малюе жвава
Абразкі паўстаньня,
І чаму рабочы сьмела
Вышаў на змаганьне.

У паўстаньні бурным, сьмелым
Што крыві праліта!
Без ахвяр не абыйшлося
Воля усё-ж здабыта!

7-XI 1923 г. *Іл. Барашка.*

## Як Міхась стаў піонэрам.

**(Апавяданьне).**

Не спалася Міхасю ўсю ноч. Кідаўся ён з боку на бок, выбіўся са сну. Прачыналася некалькі раз і маці, якую Міхась штурхаў зненацку ў бок.

— Што з табою сёньня, чаму ты ня сьпіш?—пыталася маці.

— Я... Я толькі прачнуўся...—адказваў Міхась, каб заспакоіць матку.

Важная думка варыцца ў галаве Міхася сягоньня. А ўсё пачалося так: быў ён удзень з бацькам у мястэчку і ўбачыў там піонэрскі атрад. Дужа зацікавіў Міхася гэты атрад. Дзеці ўсе, такія-ж, як ён. Нават і меншыя ёсьць.

— Тата, тата, што гэта за яны?—з нецярплівасьці запытаў Міхась бацьку.

— А хто іх, сынку, ведае... дай ты рады.

— А хто-ж, тата, ведае?—з палкасьцю прыставаў Міхась да бацькі.

Яны ўвайшлі ў клюб. Міхась у ім—першы раз. Прыгожасьць ўбраньня клюбу, малюнкі зразу-ж заўладалі Міхасём. Міхась зьдзіўлена пачаў аглядаць новы для яго будынак.

У гэты час прышоў сюды і павадыр са сваім атрадам. У гульлівай завірусе затануў клюб. Сьмех, жвавасьць, вясёласьць і сьмеласьць хлапцоў і дзяўчатак з чырвонымі істужкамі паднялі настрой у Міхася.

— Дзядзька, хто яны такія?—зьвярнуўся Міхась да павадыра, які быў большы за ўсіх піонэраў.

Павадыр аглянуўся і ўбачыў старога селяніна Язэпа з сынам.

— Сядайце, сядайце ў нас, калі ласка!

— Колькі-ж табе год!—запытаў павадыр.

— Ды, здаецца, ад Каляд—дзясяты, адказаў за яго бацька.

— Можна, можна прыняць к нам у атрад.

— Дык я-ж ня тутэйшы,—задумлёна выцадзіў праз зубы Міхась.

— Але, мы за пяць вёрст,—падцьвердзіў бацька.

— Гм...—задумаўся павадыр—ах, вось што: школа ў вас ёсьць?

— Ёсьць. Я сам вучуся.

— Дык вось што: зробім атрад піонэраў у вашай вёсцы. Зараз.

Павадыр хутка выняў карандаш, ліст паперы і начаў пісаць.

— На, браце, гэтую паперку і аддай свайму настаўніку.

Міхась з радасьцю хапіўся за паперку.

— Дзякуй скажы,—абазваўся бацька.

— Дзякую вам, таварыш дзядька, махнуў галавою Міхась і шмыгнуў за дзьверы.

Аб усім гэтым і думаў Міхась ўсю ноч. Назаўтра пачыналася ў школе навука.

* * *

Раніца была халодна-марознаю.

Недачакаў Міхась пакуль будуць ісьці. Сабраўся ўсё, як належыць, выскачыў на вуліцу першым з школьнікаў.

Сьцены школы зноў загулі школьнікамі.

Міхась бесперастанку лепятаў хлапцом аб сваёй паперцы. Тлумачыў таксама і аб піонэрах, якіх ён бачыў у мястэчку.

— Паглядзіце, паглядзіце, хлопцы, што ў нас будзе! будзе, як у мястэчку—будзем піонэры. Надзенем чырвоныя істужкі!—крычаў на ўсю школку Міхась.

Вучні, праўда, зацікавіліся навіною. Абступілі Міхася з усіх бакоў. Кожны з іх навочна хацеў сам паглядзець, што там напісана ў гэтай паперцы.

Раптам усе супакоіліся. У клясу ўвайшоў настаўнік.

— Вось вам... піонэраў нам трэба...—нясьмела выпальваў Міхась, каб хутчэй увесьці настаўніка ў сэнс справы.

Настаўнік ўважна прагледзіў некалькі разоў паперку і адказаў:

— Так, добра, мы зробім свой піонэрскі атрад.

Да і комсамолаў у нашай вёсцы ёсьць чатыры, якія нам дапамогуць.

Настаўнік забыўся цяпер аб сваіх папярэдніх думках. Ён з запалам пачаў абмалёўваць вучням піонэрскія атрады.

— Давайце, давайце!—гукнулі дзеці ў адзін голас, як кончыў.

— Будзем пяяць сваю песьню—выгукнуў настаўнік, каб забіць той шум, які паднялі вучні.

— А пяецца яна так:

Дзецям будучай комуны
Сонца ясны шле прамень—

пачаў настаўнік.

І дзеці ўсе разам падхапілі:

—Песьню славы граюць струны
Іх вітае новы дзень...

**А. Чурылавец.**

## Курсы для павадыроў вясковых піонэрскіх атрадаў.

Рост піонэрскага руху на вёсцы заставіў кіраўніка гэтым рухам —комсамол зьвярнуць вялікую ўвагу на падрыхтоўку новых добрых працаўнікоў у гэтай галіне.

Нядаўна, 1 сьнежня, Менскі акруговы комітэт ЛКСМБ адчыніў у Менску 10-цёх дзённыя курсы для працаўнікоў піонэрскіх атрадаў і наагул працаўнікоў па піонэрскаму руху на Беларусі.

Комітэт паставіў сваёй мэтаю выявіць піонэрскі актыў на вёсцы і даць яму адпаведную падрыхтоўку. Гэтым самым комітэт праводзіць у жыцьцё чарговыя заданьні Комсамолу—паход у вёску.

Усіх слухачоў на курсах маецца 28 чалавек. Па нацыянальнаму складу: беларусаў—27, жыдоў—1. Па соцыяльнаму: сялян—16, батракоў—3, рабочых—6, служачых—3.

Як мы бачым склад курсаў упаўне адпавядае нашым мэтам. Усе хлопцы з вёскі і добра яе разумеюць. Праца на курсах пастаўлена вельмі добра. Кожная хвіліна не прападае дарма. Выпрацаваны сталы плян заняткаў і існуе пэўная дысцыпліна.

Займаемся мы на курсах з 8 г. раніцы да 8 вечару.

Курсы разьбіты на тры гурткі, каб лягчэй было распрацоўваць належныя пытаньні.

Усе хлопцы вельмі цікавяцца ведамі, якія маюць шчасьце атрымаць. Кожны ведае тую сур'ёзную працу, к якой ён рыхтуецца. Праца гэта практычная і практычныя пытаньні на курсах цікавяць больш усяго слухачоў.

Можна загадзе і ўпэўнена сказаць, што карысьць ад курсаў будзе вялікая. Шэраг новых сьвядомых працаўнікоў па піонэрскаму руху пасуне наперад працу ў вёсцы, дзе яна вядзецца яшчэ слаба.

**Курсант Ф. Т.**

## Ліст да беларускага поэты Янкі Купалы

Зьвяно піонэраў, носячы Вашае імя, шле Вам гарачае прывітаньне і паведамляе, што мы рыхтуемся і выконваем тыя заветы, якія паставіў перад намі 13 Зьезд партыі.

Адначасна просім прыслаць нам па магчымасьці Вашу біографію і хоць адну кніжку Вашых твораў.

2/XII-1924 г.

**Піонэры мястэчка Крычава.**



**Ня шумі, ня дурэй**
**ты над хатай, вецер.**
**Запісаліся ў атрад**
**з нашай вёскі дзеці.**

●●●●●●●●

Нас спавівалі туманам балоты,
сіняя, чорная, шэрая мгла.
Маці хадзіла у двор на работу,
сына ў пасьцілцы на карку нясла.

Нас калыхалі вятры над мяжою,
соўкалі сьцюжай іглістай дажджы.
Клён забаўляў нас лісьцём масянжовым.
Сэрца малое: дрыжыць і дрыжыць...

І над калыскаю ціха шумела,
гнулася нізка палын—лебяда.
Мы і сьмяяліся, нават, нясьмела;
сьлёзы і сьлёзы, за імі бяда...

Ўсё адзьвінела, мінула навекі,
больш а-ніколі ня прыйдзе назад.
Высахлі нашых матуляў павекі,
гэй! зашумі над балотам лаза...

Наша Рэспубліка моцную веру
нам прышчапіла у працу людзей.
Дзеці працоўных—усе піонэры;
сіла вялікая з намі ідзе.

І у Бабруйску, і Слуцку, і Менску,
Віцебску, ды і на Сожы—агнём,
вогненным морам юнацкая зьмена.
Мы—Комсамолу на зьмену ідзём.

Будзем змагацца за лепшую долю,
пойдзем на Захад, паложыма гаць.
Чорных туманаў ня будзе ніколі,
зьнікла навекі з вачэй нашых мгла.

*Ўл. Дубоўка.*

# ЮРКА



(АПАВЯДАНЬНЕ)

Весела, чароўна навокал у прыродзе. Лета. З вёскі цягне пахучай зеленьню. Пяшчотна мяккае сонца разьліваецца сваім цяплом над ваколіцай. У высі спраўляюць сваю звычайную музыку птушкі. Пад стрэхамі шарахкаюцца вераб'і.

Але ніхто іх ня слухае. Не далятае гэта чароўнае жыцьцё да вуха вёскі; ня ўрэзваецца яно ў сэрца селяніна. Думкі яго цяпер запоўнены другім...

Грамадою сабралася вёска на вуліцы.

Сягоньня ўжо дасканала пачулі сяляне, што йдзе адступленьне. А даведаліся вельмі проста: прыляцеў у вёску падводчык верхам на кані, ён уцёк з абозу.

— Што будзем рабіць?—нехта крычаў з грамады.

— Спаляць, пабяруць, паб'юць,—дапаўняў другі голас.

Пашлі нарады, парады, як выратаваць вёску. А абыйсьці вёскі паляком нельга. Дзьве вярсты—а там шлях.

Доўга круціўся сход на адным месцы. Доўга біліся над плянам, варылі яго ў сваіх галовах. Старыя бабы зараней пачыналі ўціраць сьлёзы, якія плыняю выразаліся з сэрца. Уцякач усё дачыста передаў ім, што давялося яму бачыць. Сам ён здалёк, аж 70 вёрст ад іхняй вёскі.

— Гоняць кароў, сьвіней, грабяць сялянства...—перадаваў уцякач.

Адно выйсьце: цяпер-жа зьбірацца з усім скарбам і—ў лес!—унёс нехта прапанову. Усе згадзіліся.

У момант рассыпаліся кожын у свой бок, як клёпкі ад бочкі, у якой лопнулі абручы. Пачаліся зборы.

Не прайшло пяць хвілін, як застракаціўся палетак за гумнамі.

— Хутчэй, хутчэй!—падганяла матка Юрку,—астаномся, дзіцятка, ад людзей.

— Эх, каб гэта бацька!

— Нічога, мама, прыдзе, гэта-ж адыход палякоў.

Юрка бегаў, хваляваўся. Ні на хвіліну ня спускаў ён вачэй з таго боку, адкуль вось, вось, і могуць наляцець...

— Сынок, хутчэй, хутчэй, пыл закурэўся!!!

Юрка зірнуў і... абсунуўся на аглоблю. Рукі закалаціліся. Супоня ня сьціскаецца. А пыл—бліжэй і бліжэй.

— Юрачка, скакай вярхом—позна... прапала ўсё, хаця выручай каня!.

Юрка апомніўся. У момант зьляцеў з каня хамут. Нічога ня помнячы, Юрка ймчаўся на кані за гумны.

Але, дзе коратка, там і рвецца,—кажа пагаворка.

Наляцеў Юркаў конь на камень, гакнуў пярэднімі падковамі, сыпнуліся іскры і, паляцеў конь сабе, а Юрка сабе...

Усхапіўся Юрка, а ззаду разьнёсься над галавою зьвярыны крык:

— Стой, пся крэў!

— А конічак, а даражэнькі... заліўся сьлязамі Юрка. А ў галаве, нібы асколкамі бомбы, перавярнула думкі.

Конь адскочыў з размаху некалькі крокаў і стаў, разглядаючы на бакі, дзе дзеўся яго гаспадар.

У ваччу Юркі пацямнела. Навокал яго, здаецца, панавала страшэнная васень-

няя ноч. Не сьвяціла сонца, заціхлі ў небе птушак галасы...

— А, Юрачка, а дзіцятка маё. . што-ж ты нарабіў?!—бегла з-за гумнаў маці.

— Што нарабіў, што нарабіў...—безсьвядома паўтараў Юрка.

— Прапалі... пагоняць, дзіцятка маё, у абоз!...

А далей ад іх яшчэ стракаціліся загоны ўцекачамі з вёскі. І 10 палякоў махнулі ў здагонку. Адзін застаўся каля Юркі.

— Айда, хваце!—закрычаў паляк. Яшчэ горш папярэдняга ўскалануў усё нутро беднага Юркі гэты крык.

Але Юрка парашыў не здавацца.

Моцна ашчарэпіў ён свайго буланчыка за вобраць і з усёй сілы цягнуў у другі бок. Жаўнер ухапіўся таксама за вобраць. Матка кідалася з капцюрамі на жаўнера.

Пачалася барацьба.

— Вруць назад, холера!

Жаўнер размахнуўся з усёй сілы. Юрка з маткаю адляцеліся ад вобраці. Павёў.

Усю дарогу ішоў Юрка. Злосьць полымем шугала ў грудзёх... Ішоў ён з боку свайго буланчыка і гладзіў яго па пахвіне. Буланчык добра разумеў сваё становішча. На кожным кроку ён матаў галавою, фыркаў, аглядаўся на Юрку і на бакі, як бы хочучы вырвацца з гэтых паганых рук, падхапіць свайго гаспадара і махнуць віхрам у лес.

З поля даносіўся стук страляніны. Палякі пушчалі кулі па ўцекачох. На ўсім полі паднялася суматоха. Нават вароны і тыя ня ўседзелі спакойна на хвойках могілак. Чорнымі хмарамі ўзьвіліся яны над загонамі. Загойсалі, закаркалі, як перад навальніцай, або тады, калі наляціць на іх стая груганоў.

На двары Юркі было ўсё гатова да абозу. Нічога не пасьпела схаваць матка з перапалоху.

Жаўнер, як убачыў, зарагатаў, спадабалася.

— Панок, ён-жа зусім маленькі...

— Мувч!

— Дарма, мама, нябойся! Голас Юркі дрыжэў сталасьцю і цьвёрдасьцю. Запраўды, здавалася, за яго няма чаго баяцца.

— Я прыеду, мама, чакай!

— Прыдзеш, дзіцятка... калі ўдасца...

— Ня плач, мама! пражывом.

— Сынок, хаці сам вярніся!

З другога канца вёскі нёсься плач, бразг калёс. Жаўнеры вялі хурманкі.

Увесь абоз, колькі ўдалося набраць жаўнерам, застанавіўся ля Юркавай хаты.

— Гатова?—крыкнуў адзін жаўнер з вуліцы.

— Юж!—адказаў знадворку.

— Паночкі, аддайце хаця падушкі, коўдры—чуліся выкрыкі з вуліцы. А ўсьлед ім ляскі шампалоў, нагаек.

— Бывай здарова, мамка!—пацалаваў Юрка матцы ў руку.

Маці не магла нічога вымавіць. Як падстрэляная, абсунулася яна на прызьбе. Толькі маленькая Галя, дачка, тармасіла яе за рукаў і лепятала:

— Куды гэта, Юрка?

На вуліцы таксама расставаліся радныя й знаёмыя з абозьнікамі. Здавалася, на сьмерць выпраўляюць іх і бачаць у апошні раз.

Матка Юркі апомнілася і выбегла ўсьлед.

— Пайду, сынок, і я.

— Куды, што ты, мама?!—угаварваў яе сын.

— Галя-ж адна дома, ідзі!

Матка згадзілася, што ўсёроўна яна тут нічога не паможа.

— Як будзе ліхтуга, ратуйся хаця сам— конь такой бяды, нажывом!—былі яе апошнія словы.

* * *

У мястэчку хурманак сотні. Усе—абозьнікі. Усіх палавілі палякі за сёняшні дзень.

Самі палякі бегаюць як шалёныя, радзяцца, грабяць жыдоў і нагружваюць вазы рознымі скарбамі.

Юркаў воз таксама ўжо напакаваны. Напакаваны ўсялякім рэчамі: шкурамі, падэшвамі, падушкамі і інш.

Усё жыхарства мястэчка пахавалася...

Нават старым васьмідзесяцігоднім, і тым нельга было паказвацца на вуліцу.

На вачох Юркі адзін з жаўнераў спаткаў такога старэнькага.

— Давай грошы!—забуяніў жаўнер.

— Уй, паноцкі, няма... стары жыд паморшчыўся, сагнуўся і чуць ня прыпаў к зямлі з перапалоху. Відаць сьпяшаўся недзе.

— Нема?

Жаўнер выхапіў з кішэні вялізны нож.

— Давай!

— Уй, уй!..—пакаціўся перад ім жыд.

Жаўнер хваціў за яго доўгую бараду і пачаў пілаваць. Нож быў тупаваты і барада рвалася жыўцом...

— Эх!.. падумаў сам сабе Юрка.

— Так і хочацца кінуцца на гэтага зьвера, але што... што я яму зраблю? Малы я яшчэ.

Усхапіўся жыд, падняў сваю сьвітку і, як мага. А ўсьлед за ім аставаліся на зямлі каплі крыві...

Бараду-ж жаўнер растрос па бруку, як нягодную кучу саломы.

Сум, страх, журба ахватвала Юрку, калі глядзеў ён на гэткія сцэны. А ў галаве даўно ўжо варыўся плян, як уцячы з гэтых кіпцюроў.

Юрка надумаўся чакаць вечару. Чуў ен, што паедуць з мястэчка не раней поўначы.

Як толькі пачало зьмяркацца, у мястэчку суматоха яшчэ пабольшала. З другога канца ўзьвіўся над мястэчкам дым, чорнымі хмарамі засьцілаў ён будынкі.

Так і цюкнула Юрку—запалілі... Ен гэта чуў ад таго ўцекача, які нядаўна апавядаў, што паляць.

— Значыць, цяпер пара...—падумаў Юрка. Ён загадзя стаў прыбірацца і аглядаць месца, каб шмыгнуць на агароды. Адна бяда—паляк недалёка. Але ня ўголаве паляку. Юрка даўно заўважыў, што патруль чуць на нагах стаіць.

Пацямнела яшчэ больш.

— Ну, што будзе... Памаленьку адвёў Юрка каня. Ля варот ускочыў на яго і, патрухаўся. Ехаў спачатку памалу, страшна было, каб не рабіць стуку. Але было цёмна і ніхто Юркі ня прымеціў.

Далёка адляцеў Юрка ад мястэчка, неазіраўся на яго. А азірнуўся—там кучы полымя ўзьвіваліся клубкамі к небу...

— І чаму яны, жыхары паўцякалі з мястэчка?—задаваў сам сабе пытаньне Юрка.

— Палякоў у мястэчку ня вельмі многа. Каб гэта жыхары не ўцякалі... да каб яшчэ сюды чырвоных чалавек са сто—пагналі-б палякоў, аж пыл курэў-бы—раздумлёўваў і разважаў Юрка.

Але вось і вёска.

Юрка радасна спаткаў вёску, на душы стала весела і прыемна.—Ну, болей можа гэтага ня будзе—падумаў Юрка.

Але пабаяўся ехаць Юрка вуліцаю і зьвярнуў на загуменьні. Пад'яжджаючы к свайму гумну, Юрка прыкмеціў у гумне суседа агонь.

— Хаця-б не пажар...

Юрка прыціснуў каня і ўмомант узьляцеў на прагуменьне.

— Сюды, сюды! —крыкнуў з гумна голас. Голас Юрку быў знаёмы... Голас жаўнера.

Ізноў бяда...

— Цяпер, прапаў,—сударажна выляцелі словы з вуснау Юркі.

Жаўнер ухапіўся за каня і пацягнуў на панадворак.

Хутка вестка даляцела і да маткі.

— Сынок, сынок, ці жывы ты сам хаця?!

— Нічога, мама...

— Сынок, няхай бяруць каня сам уцякай! Такой бяды каня, нажывом.

— Не, мама, каня трэба ратаваць!

Юрка ўспомніў, што ён з бацькам, калі той ішоў у чарвоную армію, схавалі ў сене адрэз-вінтоўкі. На вінтоўцы Юрка і застанавіў свае думкі. Будаваўся плян.

— Вось што, мама, стой тут ля каня, а потым, як пачуюцца стрэлы, імчы каня на загуменкі!

Юрка схаваўся ў цемені ночы.

Не прайшло тры хвіліны, як у паветры зьвінелі адна за другою кулі.

Палякі замітусіліся. Кінулі грабіць куфры, кінулі Юркавага каня і бегалі, як спуджаныя мышы.

Матка скарыстала час... Конь к часу быў прыведзены і Юрка з сваёй вінтоўкай ужо ляцеў да лесу. Ен ня ведаў, дзе хаваецца ўся вёска і парашыў уцякаць за балота на „Востраў“ (малады ліставы лес).

Навокал панавала ноч. Дзе-ні-дзе з-за лёгкіх хмарак выглядвалі зорныя вочы. Здаецца, усе яны ўпіваліся і глыталі Юрку, дзівіліся яго сьмеласьці. Юрка сягоньня паправдзе быў сьмелы. Гэта ў першы раз на яго жыцьці, давялося аднаму быць сярод ночы ў полі, у лесе. Юрку ўсяго 14 гадоў. Але многа чаго перажыў ён за часы вайны. Бацька ўвесь час служыць у чырвонай арміі. Юрка дома гаспадаром.

Прайшло ня болей паўгадзіны і Юрка быў ужо ля „Востраву“.

Здалёк пад бляск зорак убачыў Юрка, як у рагу „Вострава“ нешта замітусілася.

— Значыць, свае—падумаў ён, і стаў штурхаць каня нагамі. Нецярпелася.

— Стой, хто едзе? —крыкнў той. Відаць было Юрку, як падняў ён сваю вінтоўку і, прама злажыўся на яго.

Юрка ня ведаў, што рабіць. Але ніякага западозраньня на палякоў у Юркі ня было. Ніяк ня мог дапусьціць Юрка, што сюды могуць папасьці палякі. Юрка рашыў, што гэта каравульны, свой з іх вёскі. Вінтоўкі ў вёсцы былі амаль у кожнага.

— Я, Юрка, уцёк з абозу!—адгукнуўся ён.

— Злазь з каня, рукі ўверх!—скамандаваў невядомец.

Юрка паслухаўся.

— Што будзе, уцякаць няма куды!..

Невядомец падышоў да Юркі

— Ты уцёк з абозу?

— Так, уцёк..

— Ты сам з вёскі?

— Так, з І...

— Малайчына! Бяры каня! Будзеш з намі, з партызанамі. Чуў аб іх?

— А-а-а... гэта аб якіх мне апавядаў бацька?!

Юрка прыпомніў, як аднаго разу ўвесну бацька гутарыў з ім аб партызанах. Яго бацька тады быў у пабыўцы.

Паўстанец вёў Юрку да свайго лягеру. Увесь час распытваў хто такі Юрка. Потым Юрка пачаў яму перадаваць, што робіцца ў іх вёсцы.

— Польскія жаўнеры наляцелі другі раз... Цяпер у вёсцы.

— І цяпер?

— Так, толькі што ўцёк. Выручыла вінтоўка.



— А дзе-ж яна?

— Кінуў, спужаўся вас. Забяру потым.

— Палякоў многа ў вёсцы?

— Не, казала матка—8.

— Ага...

Хады было на 10 хвілін. Ішлі яны праз лес, зразу рэдкі, потым гусьцейшы і гусьцейшы.

— Тут ты прывяжы каня—сказаў паўстанец Юрку.

Юрка паслухаўся.

Ступілі яшчэ крокаў дваццаць і, лягер.

Усе паўстанцы ўсхапіліся.

— Нічога, свой, – сказаў Юркаў падарожнік.

Яго голас зразу-ж пазналі і ўспакоіліся.

Пакуль паўстанец перадаваў сябром аб тым, як ён злавіў гэтага хлапца, Юрка разглядаў лягер.

Месца было зусім глухое і заросшае так, што носа камару ня ўбіць. Кругом ельнік, ракітнік, лаза, бярэзьнік. Усё гэта так пераплялося і пераблыталася між сабою, што здавалася адным зьлітым лазовым кустам. У гэтым кусьце па сярэдзіне дыміўся агеньчык. Але зусім малы—чуць завад. За тры крокі ня відаць.

Пад цененькі бляск гэтага агоньчыку Юрку ўдалося пазнаёміцца і з самымі паўстанцамі

Паўстанцаў застаў Юрка 15 чалавек. Усе яны адзетыя папростаму. Сьвіткі суконныя, сялянскія. На тварах гэтых людзей была нейкая нявыразнасьць. Ні то вясёлыя, ні то сумныя. Апрача гэтага прыкмеціў Юрка яшчэ, што ўсе яны маладыя, кожнаму можна даць ад 20—да 25 г. Толькі аднаму баяўся Юрка паставіць гэткую мерку, ляжаў ён ля агню, абапёрся на локаць і пахкаў сваю люльку. На яго твары ясна выразаліся глыбокія барозны маршчын. Барада яго была ўскудлачана і тырчэла, як перасьпеўшы сноп жыта на ўсе бакі.

Юрка стаў прыпамінаць. У яго думках стаяў вобраз гэтага дзядзькі знаемым. Але, дзе яго бачыў і што, Юрка ня помніць. Задумаўся Юрка і, як пень, стаяў на месцы, нічога ня чуў, ні на што не глядзеў.

— Слухай, Антось! пойдзем?

— Давай! Бо з гэтай вёскі ды перабяруцца ў маю,—сказаў барадач.

Толькі цяпер Юрка ўспомніў, дзе бачыў гэтага старога.

Ён з нецярплівасьці запытаў:

— Дык вы, дзядзька, з Міколкі?

— З Міколкі, дзеткі.

— А я й не пазнаў,—як бы перапрашаючы прамовіў Юрка

Дарогаю Юрка ехаў наперадзе, як начальнік. За ім хутка сьпяшаліся паўстанцы.

Толькі што ўзышоў месяц. Неба праясьнялася.

Ісьці прышлося нядоўга. Адна вярста. Ішлі спачатку балотам, потым полем.

Атрад паўстанцаў падыходзіў к вёсцы.

— Ты, Юрка, зьбегай, уведай, а мы пачакаем на загуменках,—прапанаваў барадаты дзядзька.

— А конь, як?

— Пастаіць ля нас.

— Зараз,—сказаў Юрка і шмыгнуў за плот.

Паўстанцы будавалі плян, як найлепш напасьці і, як расправіцца з імі.

Дзьве хвіліны і Юрка тут.

— Едуць!...—далажыў Юрка—едуць на сялянскіх падводах.

— Трэба сьпяшацца.

— Але, як?

— Бяжэм у канец вёскі!—прапанаваў Юрка—там ля магазына...

Паўстанцы згадзіліся.

Магазын стаяў за весьніцамі ў канцы вёскі, крокаў за сто.

— Двум трэба застацца ля апошняе хаты ў канцы вёскі. Як толькі праедуць хурманкі—даць стрэлы. Гэтым часам усе другія абхінуць палякоў. Трэба выручыць сялян і ня пусьціць палякоў—раіў Юрка паўстанцам.

— Вельмі добрая галава у цябе, Юрка, гэнэральская,—пахваліў Юрку адзін паўстанец.

— Давайце так і зробім!

— Добра.

Двое засталіся. Усе іншыя схаваліся за магазынам. Юрка схаваў свайго буланчыка ў калошню пры гумне і быў зусім вольным. Як настаяшчы паўстанец Юрка адчуваў сябе цяпер. Ён залажыў у свой адрэз пяць патронаў, прыгатаваў усё, як сьлед.

— Не баішся?—запытаў адзін у Юркі.

— Чаго?

— А страляць-жа будзем.

— Ну, я горш баяўся, як быў у лапах палякоў—адказаў Юрка.

Неўзабаве да вушэй данёсься грук калёс, выкрыкі палякаў і ўзрыды нейкіх галасоў ні то жаночных, ні то дзіцячых. Вось, і хурманкі раўняюцца з магазынам...

— Хлопцы, рыхтуйся!

— Пок-пак-пок... засьвістала ў паветры.

— Стой! рукі ўверх!

Паўстанцы наляцелі прама на падводы.

Пасьля сумятохі на дарозе засталіся толькі паўстанцы...

Паўстанцы накіраваліся ў вёску.

Насустрач ім вышла цэлая грамада сялянства.

— Юрка?!—выляцеў з грамады голас.

— А, сыночак, а даражэнькі...

Юрка, не зьвяртаючы ўвагі ні на што пачаў апавядаць аб сабе і аб паўстанцах.

— Нам трэба ўсім ісьці ў паўстанцы—дабавіў Юрка.

— Я з сёнешняга дню—паўстанец. Я цярпець ня буду, калі мяне будуць мучыць, грабіць і катаваць... Голас Юркі быў сталы, цьвёрды. Гаварыў—адсякаў кускі жалеза.

* * *

Назаўтра палякоў ужо ня было. У вёску прыехала першая конная разьведка чырвоных. Аб гэтым хутка данеслі паўстанцам і ўсе яны зьвярнуліся ў вёску.

Сярод разьведчыкаў быў Юркаў бацька. Весела спаткаў Юрка свайго бацьку. Моцна паціснуў Юрка свайму бацьку, як роўнаму, руку.

— Я паеду, тата, з табою—сказаў Юрка.

— Не, сынку, лепш астанься, малы ты яшчэ.

— Не твая, тата, бяда.

Юрка не адступаў ані кроку.

— Ну, так і быць, валяй!—дазволіў напасьледак бацька.

— Але лепш усяго ты пойдзеш з пяхотою.

Юрка згадзіўся.

Разьвітаўся бацька з сынам і жонкаю, і паехаў далей.

А Юрка застаўся чакаць пяхоты.

**А. Якімовіч.**



# ЯК ЗРАБІЦЬ ЛЫЖЫ.

Неўзабаве надыходзіць зіма. Мяккім пуховым сьнегам усьцелецца зямля. Сінія лясы адзенуцца ў белую вопратку. Загудзе, засьвішча вецер над прасторамі белага акіяну.

Піонэр у гэты час забіраецца дзе-небудзь у школку, або ў хатку і сядзіць за кніжкамі, газэтамі. Але гэтага для піонэра мала. Піонэра ня могуць задаволіць адны кніжкі. Ён стараецца разьвіць свае сілы, як духоўна, так і фізычна. Піонэр жвавы, гаручы запалам, бадзёры і энэргіі для ўсялякай карыснай працы ў яго хваціць. А як-жа можна піонэру разьвіваць свае фізычныя сілы ўзімку?

Вельмі проста. Зімовы час — самы найлепшы час для піонэра. Вольныя, шырокія прасторы палёў і лясоў прыдуць к піонэру на дапамогу. Толькі прыдуць трэба, каб і піонэр к ім вышаў, каб абудзіў іх сваёй вясёлай песьняй, каб скарыстаў іх для свайго здароўя.

Піонэр павінен выехаць на беласьнежныя прасторы на сваіх *лыжах.* Лыжы для піонэра зімою— гэта ўсё, што ён толькі лепшага можа мець. Язда на лыжах узімку для піонэра—адзін з найлепшых заняткаў. І весела, і карысна для здароўя. Тут папраўдзе піонэр загартоўвае сябе, разьвівае сваю фізычную сілу.

---

**Вецер стогне, бор колыша,**
**сосны скардзяцца, гудуць.**
**Піонэры ўсе на лыжах**
**закружылі па сьнягу.**

---

— Так гэта ўсё мы ведаем—скажаце вы — але, дзе-ж іх дастаць гэтыя лыжы?

—А іх і даставаць ня трэба—можна вам адказаць.

Лыжы, аб якіх мы гаворым, можа зрабіць сабе кожны піонэр сам. А калі ня сам, дык папрасіць брата, бацьку і ён зробіць. На гэта ня трэба ні навукі, ні сталяра.

—Дык усё-ж такі, як іх зрабіць?

—А вось як. Вы толькі уважна паслухайце, разьбярэцеся і справа пашла ўход. Нічога на сьвеце няма цяжкага. Трэба толькі ахвота, зацікаўленасьць. А ахвота (ды яшчэ якая!) ёсьць у кожнага піонэра.

### Як зрабіць сабе лыжы.

Усялякія лыжы, к якому-б яны тыпу не прыналежалі (ёсьць, бачыце, розныя лыжы па сваёй пабудове), маюць наступную пабудову: пярэдні канец лыжаў (нос) загнуты ўгору, задні канец можа быць загнуты або й просты; сярэдняя частка лыжаў мае выгіб уверх. Гэты выгіб пачынаецца ад загнутага носу і даходзіць амаль-што да канца хваста. На сярэдзіне выгіб даходзіць да 6—7 см. Роўна на гэтай сярэдзіне становіцца нага і ўся вага тэй асобы, якая становіцца, разьмяркоўваецца на ўсёй лыжы аднолькава ўва ўсіх яе частках.



Мал. 1. агульны выгляд лыжы.

Тут мы разглядзелі агульны выгляд лыжаў, такі які ўжо ёсьць зробленым. Але-ж гатовымі лыжы не растуць. Лыжы трэба зрабіць.

Каб зрабіць лыжы, трэба ўзяць сухое дзерава, ясяню, клёну, бярозы ці іншага, якое мае здольнасьць гнуцца і моцнае. Дрэва, якое мы возьмем для лыжаў, павінна быць бяз сукоў, роўное, гладкае, здаровае, і зусім круглае. *) Таўшчыня яго павінна быць 7 цаляў. Гэта дрэва (кругляк) расколваецца на дзьве палавіны (плашкі). Кожная плашка роўная і расколата па асяродку дрэва. З плашкаў трэба вычасаць дошкі якія павінны быць таўшчынёю ў $1^1/_3$ цалі, ($4^1/_2$ см.) **) і шырынёю ў $3^1/_2$ цалі (9 см.).



Мал. 2. дрэва павінна быць круглым.

*) **Увага.** Даўжыню дрэва, якое мы бяром для лыжаў, паказвае ніжэй прыложаная табліца. Апрача гэтага зразу кусок дрэва бярэцца на см. 10—12 даўжэйшым, бо канцы яго могуць быць паколатымі, каб іх нам ільга было адрэзаць.

**) 1 цаля=прыблізна $2^1/_2$ см.

Мы ўжо вычасалі дошкі. Цяпер нам трэба выгабляваць той бок, па якім мы дрэва раскалолі.

Далей пойдзе

### Разьмер лыжаў ***).

Шырыня лыжаў=7 см. Даўжыня-ж лыжаў можа мяняцца ў залежнасьці ад вагі тэй асобы, якая будзе на іх езьдзіць.

| Вага асобы | Даўжыня лыжаў | Шырыня лыжаў |
|---|---|---|
| да 2 п. | 150 см. | 7 см. |
| „ 3 п. | 180 „ | „ |
| „ 3 п. 20 ф. | 195 „ | „ |
| „ 4 п. | 255 „ | „ |
| „ 4 п. 20 ф. | 270 „ | „ |
| „ 5 п. | 285 „ | „ |

***) **Увага.** Мы бяром тып лыжаў бегавых, якія нам і патрэбны.

Мы разглядзелі табліцу і выбралі патрэбную нам даўжыню, згодна сваёй вазе. Цяпер адрэзваем лішнія канцы нашага дрэва. Бок, які мы выгаблявалі, будзе ў нас сподам лыжы. Выбіраем нос лыжы. Далей бяром сваю дошку і ўсподзе лыжы, пачынаючы ад заду робім равок, які павінен быць 2—3 см. шырынёю і 2—3 см. глыбінёю. Гэты раўчук цягнецца ад задняга канца лыжаў і паступова сходзіць у носе на верх Так, што ў самым носе ў нас няма ніякага раўчука. У нас такім чынам спод лыжы гатоў.

Каб зрабіць верх лыжы, трэба ўзяць аловак і мерку. Адкладваем меркаю ад задняга канца лыжы 41 см., а ад носа 91 см. На ступню нагі ў нас застаецца 18 см. Гэты разьмер 18 см. у нас будзе аднолькавым для кожных лыжаў. Разьмер-жа ад носа лыжы й ад заду мяняецца так, каб прыблізна ад носа да ступні прастора была ў два разы большаю.

Калі мы ўсё гэта зробім, пойдзем далей. Канцы лыжаў ад ступні зграблюем. Табляваць трэба паступова па скату так, каб у самым канцы носа, або ззаду таўшчыня была ня меншая, чым 1 см. На сярэдзіне для ступні ў нас застаецца ўзгорак, які павінен быць таўшчынёю ў 3 см. Нос лыжы састружам з бакоў так, каб даўжыня часткі, якая сасругваецца была ў 12 см.



Мал. 3.

— Добра, — скажаце вы,—а як-жа прычапіць гэткую гатовую лыжу да нагі? А вось як. У нас маецца гатовая лыжа. Мы яе бяром і пераварачваем на бок. Адмяраем цяпер ад пярэдняй рысы месца для ступні 5 см. і прабіваем дзірку навылет праз усю шырыню лыжы на месцы ступні. Дзірка павінна быць роўнаю і знаходзіцца ад споду лыжы на $1^1/_2$ см. Шырыня дзіркі павінна быць такою, каб у яе пралезла папружка.



Мал. 4. (Падоўжны разрэз і выгляд лыжы).

У нас дошка для лыжы ўжо гатова. Але-ж на гэткай лыжы яшчэ не паедзеш. Лыжу трэба яшчэ выгнуць. Як гэта робіцца? А вось як. Бяром сваю лыжу і распарваем у гарачым кіпяцені. Цяпер зробім маленькую прыладу, дзе нам трэба выгнуць лыжу. Робіцца прылада так: бяруцца дзьве планкі, к якім прыбіваем папярочныя планкі прыблізна ў такім выглядзе.



Мал. 5.

Даўжыня гэтай прылады робіцца такая, як даўжыня лыжы. Закладваецца ў яе лыжа, або дзьве разам, згодна малюнку. Сярэднія папярочныя планкі маюць таўшчыню ў 5 см., а канцавыя ў 2 см.

У такой прыладзе наша лыжа будзе сохнуць тыдзелі дзьве, або й болей.

Трэба помніць, што, чым лепш распарым лыжу, тым будзе лепшы выгіб.

Калі лыжы высахнуць, мы іх зьнімаем і абчышчаем шклом да гладкага. Але гэта яшчэ ня ўся праца. Лыжы трэба яшчэ змазаць некалькі разоў наступнаю жыжкаю, якая складаецца:

Адна частка пакосту, які кіпяціцца на агні. Калі пакост закіпіць дабаўляецца адна частка парафіну, адна частка добрага дзёхцю, дзьве часткі шпігінару (звычайнага) і адна восьмая частка фармаліну. Усю гэтую мешаніну трэба пракіпяціць.

Але кіпяціць трэба асьцярожна, каб яна не загарэлася. *) Цяпер можна мазаць лыжы разоў 4—6. Мазаць трэба гарачаю мешанінаю. Трэба, каб лыжы ўцягвалі гэтую жыжку. Калі-ж ня будуць уцягваць, то трэба дабавіць у гэтую жыжку $^1/_8$ частку дзёгцю і 2 часткі газы, або шпігінару (часткі бяруцца ў адносінах першых порцыяў гэтых самых элемэнтаў).

Калі лыжы высахнуць ад мазі, то абіваюць ступню лыжы суконкаю, альбо аўчынкаю, каб ня коўзалася нага.

Лыжы гатовы. Але й яшчэ ня ўсё зроблена. Да лыжаў трэба яшчэ

**лыжныя палкі.**

Дзеля таго, каб шпарка езьдзіць на лыжах і рабіць лоўка ўсе належныя звароты, ужываюцца так званыя *лыжныя палкі.* Палкі гэтыя павінны быць лёгкія і досыць моцныя, дзеля таго, што асоба, якая езьдзіць на лыжах часта налягае на палкі ўсёй вагою свайго цела.

Робяцца палкі з сухога дрэва: дубу бярозы, ясеню і інш., з умовай, што гэта дрэва досыць моцнае.

Лыжная палка павінна мець тры часткі: самая палка, абадок і наканечнік (жалеза, якое надзяецца на канец палкі). Таўшчыня самой палкі павінна быць 3—4 см. у дыамэтры. Вышыня палкі павінна быць ня вышэй галавы, асобы якая езьдзіць і ня ніжэй пляча. Абадок для палкі робіцца з ракіты, або лазы.

Дыамэтр абадка павінен быць у 12 — 17 см. Канцы абадка зьбіваюцца цьвікамі, або зьвязваюцца дротам. Прымацоўваецца абадок да палкі пры дапамозе шкурацікаў. Робіцца гэта так: к абадку прышываецца два шкурацікі, якія ляжаць накраст. На сярэдзіне гэтых шкурацікаў трэба прарэзаць дзірку, куды ўстаўляецца палка і прымацоўваецца сырамяткаю. Адлегласьць абадка ад ніжняга канца палкі павінна быць на 10 см.

Абадок можна рабіць таксама і з фанэры, што нават прасьцей. Кружок гэткі прымацоўваецца цьвікамі, якіх бывае два: пад кружком і ўверсе кружка (цьвікі ўбітыя ў палку).

*) Лепш усяго зрабіць гэта сумесна з настаўнікам, а калі яго няма, то з маткаю.



Мал. 6.

Адзяюцца гэтыя абадкі на палку для таго, каб не праваливалася наша палка ў сьнег.

У верхнім канцы палкі павінна быць пятля з шкурапіка, куды закладваецца рука, каб можна было мацней трымаць палку.

Вось і ўсё, як робяцца лыжы.

У чарговым нумары дадзём працяг, дзе растлумачым, як карыстацца лыжамі і, як на іх езьдзіць. Цяпер піонэр за працу!

Калі вы чаго небудзь не зразумееце, пішэце к нам у рэдакцыю, мы тады растлумачым падрабязьней у чарговым нумары.

П. ГЭРМАН.

---

**Ах вы, лыжы мае**
**вараныя коні.**
**Рзмахнуся па сьнягу—**
**вецер не абгоніць.**

---





* * *

Расамахаю ночка ліпнёвая
Прытулілася тварам да долу,
Як запелі над вёскаю новаю
Піонэры—падмен комсамолу.

Яны сеньня начлежнікі вольныя,
Ня спыняюцца ў далі прыгожыя.
Іх дарогі квяціста-раздольныя!
Аб мінулым яны не варожаць.

На простор сакалінымі ўзмахамі
Плытагоняць на крыльях вясеньніх.
Засьмяялася ноч расамахаю
І на дол прылягла ў задумленьні

* * *

Ой ня лес зашумеў асавелы,
Ня дубняк малады грубіяніць,—
Гэта раць юных ленінцаў сьмела
Будзь гатоў! па-над лугам бuяніць.

Распалілі агонь піонэры
На магіле струхнелага бору.
Колькі шчасьця, надзеі і веры!
У грудзёх арлянятаў простору.

А на лузе размашыстым, коняй
Разьліваецца звонкае йржаньне.
Піонэрам ня сьпіцца сягоньня!—
Яны новы рыхтуюць пажар.

І свабодныя песьні наўкола
Пакаціліся вольна дубровай.
Гэй! на зьмену байцу комсамолу!
Піонэр, будзь заўсёды гатоў!..

*П. Трус.*

# Жарты, загадкі і задачы.

## Працуе.

— Ці ты многа зрабіла сёньня, дачушка?

— Так, мамачка. Я раблю другую панчоху.

— Дзе-ж першая?

— Нідзе: я пачала адразу з другой.

## Запытаньні і задачкі.

1. Сарока ляцела, сабака на хвасьце сядзела. Як гэта магло здарыцца?

2. Якая кашуля складаецца з адных займеньняў (местоимений)?

3. Зрабіў бацька сыну ўцеху, стаў на ёй сын ды паехаў.

## Задача літараў № 1.

### ДЗЯДЗЬКІ МІХАЛКІ.

| | | | |
|---|---|---|---|
| А | А | А | А |
| Е | Е | Й | Л |
| Л | Л | М | О |
| О | П | П | Р |

Расставіць дадзеныя літары ў клетках квадрату так, каб, чытаючы злева направа і зьверху ўніз можна было атрымаць 4 словы, якія азначаюць: 1. Школьна-навуковую рэч; 2. Птушка; 3. Пляц зямлі у сел.-гаспадар.; 4. Масла.

## Задача літараў № 2.

### ДЗЯДЗЬКІ МІХАЛКІ.

С+Р+Х
Г+Н+А
К+А+Ы
В+Г+Н
+ЭН+
+РАЗ+
В+Г+И
КА+Т+НЫ
ЧА+О+КА
Г+Н+К

Дадаць патрэбныя літары, замест крыжыкаў, каб можна было прачытаць 10 слоў, а зьверху ўніз—імя і прозвішча сучаснага нашага пісьменьніка і назву яго твору.

# НАШ КАЛЕНДАР



СЬНЕЖАНЬ.

**15 сьнежня**—6-ая гадавіна ЛКСМБ (пачатак арганізаваньня 15-га сьнежня 1918 г., у Менску). Піонэры прыймаюць у сьвяткаваньні самы чынны ўдзел, дагаварыўшыся раней з ячэйкамі ЛКСМБ.

**16 сьнежня**— У 1905 г. у ранейшым Піцеры, цяпер Ленінградзе, рэволюцыйны пролетарыят утварыў першы Савет Рабочых Дэпутатаў. 16 сьнежня 1905 г. царская поліцыя арыштавала Савет.

**17 сьнежня**— У 1922 годзе пачаўся 4-ы Ўсебеларускі Зьезд Саветаў, Зьезд прадстаўнікоў рабочых, сялян і чырвонаармейцаў вольнай Савецкай Беларусі.

**30 сьнежня**—У Маскве, 30 сьнежня 1922 г. пачаўся Зьезд прадстаўнікоў незалежных савецкіх рэспублік: РСФСР, УССР, БССР, і ЗСФСР, які вынес 4 студзеня 1923 г. пастанову аб утварэньні Саюзу ССР. Утварэньне Саюзу сьвяткуецца 3-га ліпеня, бо ў гэты дзен (у 1923 г.) зацвержданы Аснаўны Закон (Конституцыя) Саюзу ССР.

**30 сьнежня**—У гэты дзень, у 1918 г., адбыўся 1-ы Зьезд Комуністычнае Партыі Літвы і Беларусі.



СТУДЗЕНЬ.

**1 студзеня**—Новы год. 1 студзеня 1919 г. абвешчана незалежнасьць Беларускае Савецкае Социялістычнае Рэспублікі. На чале Часовага Ўраду Рэспублікі стаў рабочы-гарбар З. Жылуновіч (ён жа беларускі пісьменьнік Цішка Гартны). Апрача агульных выступленьняў і дакладаў, піонэры могуць адзначыць гэты дзень наладжаньнем пры сваіх клюбах і пры школах літаратурных вечароў выбіраючы вершы для дэклямацыі з кнігі— *„Чырвоны Дудар"*

**4 студзеня**—У 1919 г. Часовы Ўрад БССР апублікаваў дэкларацыю аб утварэньні БССР. У крайнім выпадку можна перанесьці сьвяткаваньне утварэньня Рэспублікі з 1-га студзеня на гэты дзень.

**5 студзеня**—Ў 1919 г. у гэты дзень войскі Чырвонай Арміі прышлі ў Вільню. У выпадку магчымасьці, дзень гэты можна адзначыць заслуханьнем у атрадах і школах дакладаў аб становішчы Заходняй Беларусі, дапасаваўшы да гэтага дэкляма-

цыю вершаў адпаведнага зьместу з кнігі «Чырвоны Дудар»

**6 студзеня**—Пачатак паўстаньня спартакоўцаў-комуністых у Бэрліне (Нямеччына) у 1919 г.

**14 студзеня**—Першы напад на Ўл. І. Леніна ў Петраградзе, у 1918 г.

**15 студзеня**—дзень жалобы (траура) —забойства правадыроў Нямецкай Комуністычнай Партыі К. Лібкнехта і Розы Люксембург у 1919 г.. Гэты дзень трэба адзначыць, умовіўшыся з ячэйкамі ЛКСМБ,—наладжаньнем адпаведных вечароў.

**16 студзеня**—У 1921 г. БССР заключыла саюзную ўмову (дагавор) з РСФСР аб супольным змаганьні супроць буржуазіі.

**18 студзеня**—У 1918 г. адчыніўся і зачыніўся так званы Установчы Сойм («Учредительное Собрание»).

**19 студзеня**—У 1775 г. расійскі царскі ўрад пакараў сьмерцю Амельляна Пугачова, які ўздымаў сялян супраць панскага прыгону.

**20 студзеня**—1923 г. у Менску выйшаў першы нумар марксыцкай часопісі «Полымя». Рэдагуе гэту часопісь вядомы беларускі пісьменьнік Цішка Гартны.

**21 студзеня**—У 1924 г. памёр правадыр сусьветнага пролетарыяту Ўл. І. Ленін. Дзень жалобы. Піонэры прыймаюць чынны ўдзел у жалобным дню. Як матар'ялы для дакладаў і чыткі радзіцца «Полымя» № 1 (9) і «Маладняк» № 5.

**22 студзеня**—У 1905 г. па загаду крывавага цара Мікалая ў Піцеры (цяпер Ленінград) пастраляны тысячы рабочых, якія ішлі пад павадырствам папа Гапона да царскага палацу шукаць «праўду».

**25 студзеня**—У 1921 г. пачатак заснаваньня Комуністычнае Партыі ў Італіі.

**28 студзеня**—У 1918 г. Савецкі Ўрад РСФСР выдаў дэкрэт аб стварэньні Чырвонай Арміі.

**31 студзеня**—У 1892 г. радзіўся беларускі поэт Алесь Гурло. Дзень гэты варта адзначыць супольна са школамі, наладжваньнем літаратурных вечароў. Пасьля дакладу аб Гурло—сябру комсамольскага аб'яднаньня поэтаў «Маладняк»-дэклямацыя яго вершаў са зборніку—«Барвенак». Матар'ялы аб Гурло—у № 3 (11) часопісі «Полымя»—артыкул «У надзея над прасторамі».



# П О Ч Т А.

**Запытаньне:** Ці можна бяз марак пасылаць допісы у піонэрскую часопісь?

**Адказ:** Зразумела, можна. Толькі бяз маркі ліст часамі доўга валяецца па поштах і ня так хутка пападае куды патрэбна.

**Запытаньне:** Якія задачкі можна пасылаць у піонэрскую часопісь?

**Адказ:** Якія толькі выдумаеце. Пажадана-б каб лягчэйшыя, бо вельмі заблытаныя дзецям трудна развязваць.

**Запытаньне:** Ці выходзяць больш піонэрскія беларускія часопісі і дзе?

**Адказ:** Нідзе ня выходзяць. Гэта першая піонэрская часопіс на Беларусі, якая пачала выходзіць з 15 сьнежня 1924 г. Выдаецца яна ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы.

**Запытаньне:** Ці будзе рэдакцыя піонэрскай часопісі наладжваць выезды на месцы ў атрады?

**Адказ:** Будзе. Ня меньш аднаго разу ў месяц. Аб усіх выездах будзе друкавацца ў часопісі.

**Запытаньне:** Чаму ў нас няма організацыйнага статуту піонэраў Беларусі?

**Адказ:** Статут ужо апрацаваны і друкуецца. Хутка выйдзе.

**С. Балоцяніку.** Твой верш «Улетку» атрымалі. Друкаваць ня будзем, бо ён слабы. Здольнасьць у цябе ёсьць. Пішы яшчэ, дадзём тады падрабязговы адказ.

**Дзядзьку Міхалку.** Прысланы вамі матар'ял часткаю скарысталі у першым нумары. Рэшту дадзём у другім. Шлеце больш. Першы нумар часопісі высылаем разам з гонорарам. Да ўсіх нашых корэспондэнтаў—Прысланыя матар'ялы скарыстаем у чарговых нумарах. Падрабязговы адказ дадзём у другім нумары.

---

Выданье НКА. БССР. Адказны рэдактар **Ўл. Дубоўка.**

*Дадатак да часопісі*
*„Беларускі піонэр“ № 1.*

**Словы М. Чарота.** | *Музыка М. Равенскага.*

# МОЛАДЗЬ

*паходна*

Дзецям бу дучай ка муны сон ца яс ны шле пра мень

*mf* песь ню сла вы гра юць стру ны іх ві та е но вы дзень

Дзецям будучай комуны
Сонца ясны шле прамень.
Песьню славы граюць струны,
Іх вітае новы дзень.

* * *

Хто пажар затушыць ў сьвеце,
што шугае да нябёс?
Толькі вы—комуны дзеці,
Вас чакае лепшы лёс.

* * *

Хто тварэц жыцьця людзкога,
Волі, шчасьця, пекнаты?
Хто кладзе к жыцьцю дарогу?
Ведай, моладзь, гэта—ты!

*1920 г.*



Словы Ўл. Дубоўкі.

# НА ПРАСТОРАХ СІНІХ.

*Муз. М. Равенскага.*

Адзін

Песь-ня ймкне-цца і зьві-ніць на пра-сто-рах сі-ніх

рэ-во-лю-цы-і аг-ні нас у-ска-ла-сі-лі

Усе разам

Дзе-ці ву-ліц дзе-ці по-ля ра-ба-мі ня бу-дуць, ня бу-дуць ні-ко-лі

Пойдзем дружна, як адзін
мы ў піонэры.
Толькі глянь, брат, паглядзі,—
не дасі і веры.

Тут Базыль, Грыгор, Пятрусь,
Канцавога Павал.
Маладая Беларусь
ўсіх сыноў прыслала.

А Марылька, а Васіль,
а Сымон, Настуля?
Маці шыюць ім усім
новыя кашулі.

Засьпяваем, загрымім
весялушкі песьні,
каб пачулі на сто міль,
што ў нас прадвесьне.

Запытаюць калі нас:
— Ці падрыхтаваны?
Мы дадзім тады адказ:
— Стальлю гартаваны!

Хай жыцьцё ў вачох зьвініць
маладою сілай.
Рэволюцыі агні
нас ускаласілі.

Пасьля кожнага куплету два разы сьпяваецца прыпеў:

— Дзеці вуліц, дзеці поля
рабамі ня будуць,
ня будуць ніколі.

Галоўліт № 5833. (Тыраж 3000 экз). Менск, 2-я друкарня БДВ. зак. № 1368г.



# НАША ЧАРГОВАЯ ПРАЦА.

Лета і восень ужо мінулі. Надыходзіць зіма, надыходзіць час школьнай працы. Перад намі, браткі, паўстае многа задач. Спынімся на некаторых, больш неадкладных.

### Што мы зрабілі за лета?

Дрэнна будзе, калі ў якім небудзь атрадзе скажуць—нічога. Але-ж мы ўсёткі краталіся, ды яшчэ як. Трэба зрабіць падрахунак гэнай працы. Якім парадкам? Павадыр атраду хай у першую чаргу ўспомніць усё і запіша. Мы грамадой дапоўнім тады, калі ён на што небудь забыўся. Аб чым пісаць? — Нашы выступленьні, наш удзел у агульна-грамадзкім жыцьці, нашы паходы, лагеры—ды ці-ж мала чаго! А калі да гэтага дададзём выступленьні ў нас нашых старэйшых таварышаў - комсамольцаў, партыйцаў, дык малюнак будзе больш-менш ясным.

На чарговым зборы атраду—мы абсудзім, абгаворым сваю працу, адзначым у ёй усе недахопы, усе памылкі, каб на другое лета гэтага ўжо ня было. Чаму цяпер?—скажа мне хто-небудь. Гэта можна зрабіць калі-калі пасьля.

А таму цяпер, што мы добра ўсе помнім нашу працу, а да вясны—глядзі што і забудземся.

Абгаварыўшы гэткім парадкам мінулае, падойдзем да сёнешняга, да тэй працы, якую трэба выканаць зімою.

### А што можна зрабіць зімою?

Зіма—вядомая пара. Сьцюдзена-холадна, асабліва, у каго дрэнная вопратка. Далёка ня пойдзеш, не паляціш. Хата—школа. Вось здадецца і ўсё.

На гэта мы адкажам—не! Возьмем перш-на-перш школу. Ці-ж ўсе дзеці ў школах зьяўляюцца піонэрамі? Вядома, што не. Чаму?—Іншых мы самі ня прымем у сваю грамаду, бо яны ня выконваюць нашых законаў і звычаяў. А іншыя—проста ня ведаюць, як і што. Наша задача—пайсьці да іх, растлумачыць ім, навучыць іх, організаваць іх. Залажыўшы невялічкі асяродак, ядро, інакш кажучы—форпост—мы гэткім парадкам будзем зацікаўліваць іншых хлапцоў і дзяўчатак, будзем пашыраць сваю працу. У тых вёсках, мястэчках, дзе наагул няма піонэрскіх атрадаў—з'організуем нанова, для чаго згаворымся з комсамольцамі.

### Дык што далей?

А далей—цікавыя рэчы. У школе форпост піонэраў будзе пачынальнікам-ініцыятарам усялякіх разумных забаваў, організаваных гульняў. Форпост уздыме пытаньне, каб у школу час ад часу прыходзілі ў вольныя гадзіны нашы партыйцы, нашы комсамольцы і праводзілі з піонэрамі і ўсімі школьнікамі гутаркі на палітычныя і іншыя тэмы. Піонэры ўздымуць пытаньне і наладзяць пры школе чытальню, наладзяць выпіску маладняцка-юнацкіх газэт, часопісаў і організуюць тую ці іншую камісію. Глянеш—працы так многа, што хоць на дапамогу кліч. Але мы справімся. Ці-ж няпраўда?

### Але гэта ня ўсё!

Ці ў горадзе, мястэчку, ці ў вёсцы — ня усе дзеці могуць хадзіць у тэатр, у кіно. У вёсцы, дык кіно і зусім няма. Трэба нешта прыдумаць і тут. Возьмем на гэты раз для прыкладу вёску. Падыйшла нядзеля, як кажуць—сьвята. У школе заняткаў няма. Дома няма чаго рабіць такжама. У грыбы ці ў ягады ня пойдзеш. Піонэры нешта прыдумаюць. Зрабіць невялічкі вечар у школе, а калі ёсьць—у піонэрскім клюбе. Як? Папрасіць настаўніка ці настаўніцу, каб яны памаглі вывучыць некалькі песьняў. Даручыць аднаму таварышу, каб ён падрыхтаваў невялічкі палітычны даклад, у зьвязку з сёняшнім днём. Некаторыя таварышы вывучаць напамяць добрыя, рэволюцыйныя вершы. А калі да ўсяго гэтага знойдзецца музыка-цымбалісты, скрыпач, які можа добра йграць (аб гэтым трэба парадзіцца з комсамольцамі), дык выйдзе такі ўдалы вечар, што ня толькі малыя, але й старыя будуць рады. Вось, прыкладам, як можна злажыць програму.

### І-я частка.

1. Прамова—даклад.
2. Хор (Інтэрнацыянал).
3. Музыка (дзьве ці тры песьні).
4. Дэклямацыя (добра, калі выступяць таварышы тры ці чатыры).
5. Хор (прасьпявае комсамольскія або піонэрскія песьні).

### 2-я частка.

6. Музыка (некалькі песьняў).
7. Ізноў дэклямацыя.
8. Хор (некаторыя беларускія народныя песьні, а затым—«Ад веку мы спалі».

Зразумела, што калі дзеці здалеюць пад кіраўніцтвам комсамольцаў і настаўнікаў развучыць невялічкую п'еску і паставіць яе ў другой частцы або ў трэцяй, дык будзе зусім добра.

Гэта ўсё, уся наша праца пакажа і старым і малым, што піонэры сапраўды рыхтуюцца быць добрымі працаўнікамі, добрымі грамадзянамі Савецкае Беларусі. Адначасна, мы навучымся працаваць організавана, колектыўна, каб у свой час, на запытаньне нашых папярэднікаў-комсамольцаў:

— Ці падрыхтаваны?

Мы маглі адказаць словамі сваёй песьні:

— Стальлю гартаваны!

**Павадыр Уладзік.**



# Заходняя Беларусь.

Пасьля нашай вайны з буржуазнай Польшчай, з польскімі панамі і ксяндзамі—частка Беларусі з 1920 году апынулася пад Польшчай. Гэта—Віленшчына, Гарадзеншчына і частка Меншчыны. Нашы газэты кожны дзень зьмяшчаюць матар'ялы, допісы, заметкі, з якіх відаць, што беларускаму працоўнаму сялянству жывецца там нязвычайна цяжка. Яскравей за ўсё сьведчыць аб гэтым хоць бы тое, што рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі час ад часу ўздымаюцца супроць гэтых гвалтаў, паўстаюць, б'юць паноў, паляць іхнія маёнткі—бо не хапае цярплівасьці.

Але нас цікавіць другое. Калі тут, у Савецкай Беларусі і наагул у Саюзе ССР мы, дзеці, можам вучыцца ў школах на сваёй роднай мове, можам організоўвацца ў атрады піонэраў, якія рыхтуюцца пайсьці на зьмену сваім старэйшым таварышам комсамольцам, — дык нічога падобнага ў Заходняй Беларусі няма. Беларускія школы, якія там былі, польская буржуазія пазачыняла.

Калі дзе і засталіся яны, дык іх ня больш чымсі 20-30. Ясна, што аб легальнай, дазволенай організацыі дзяцей—ня можа быць ніякай гутаркі. Ня гледзячы на гэта—моладзь Заходняй Беларусі організуецца. Організуецца, падпольна, каб польскія жандары-паліцыя не маглі перашкодзіць працы. Многа таварышоў нашых папала ў турмы, страціла жыцьцё сваё ад пабояў, але другія ня кідаюць працы, рыхтуюць зьмену Комуністычнай Партыі.

Падпольная комуністычная газэта Заходняй Беларусі—«Чырвоны Сьцяг»—так піша аб моладзі.—

—«У цяжкіх, непамерна цяжкіх варунках, моладзь Заходняй Беларусі гартуе свае сілы.

Ні турмы, ні катаваньні, ні растрэлы ня спужаюць нашу моладзь.

І калі Ленінская партыя пакліча Ленінскі комсамол у бой з панскімі акупантамі—наш падпольны комсамолец, наш малады рабочы і селянін скажа па комсамольску: ГАТОЎ!

Якія задачы паўстаюць перад намі, піонэрамі вольнага краю, Савецкай Беларусі?

Шчыльна злучаць свае рады, рыхтавацца на зьмену ЛКСМБ па яго працы з тым, каб і мы маглі сказаць сваім таварышам, якія паклічуць нас на дапамогу: ЗАЎЖДЫ ГАТОЎ!

**Стукайце, кросны Беластоку,**
**Званіце, кавадлы Вільні!**

**Час вызваленьня—недалёка,**
**Чырвоны сьцяг ужо ўзьвіўся.**